• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • кошт 3000 рублёў

4 чэрвеня 1998 г. чацвер, № 115 (23466)



# ЗВЯЗДА




Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## РАСІЙСКІ ФІНАНСАВЫ КРЫЗІС БЕЛАРУСІ НЕ ПАГРАЖАЕ

**Гісторыя з абвалам на расійскім рынку беларускага рубля ў сакавіку нечым сёння нагадвае сітуацыю, якая разыгралася на фінансавым рынку РФ. Крызіс, які там праявіўся ў падзенні курса акцый і карпаратыўных каштоўных папер, мог добра-такі падарваць пазіцыі расійскага рубля.**

Кіраўнік Цэнтрабанка гэтай краіны, напрыклад, лічыць, што рынак трэсла менавіта па прычыне наяўнасці «замаху» на рубель і, маўляў, існуе змова біржавых гракоў, якія вырашылі дабіцца дэвальвацыі рубля. Мэта простая — на дэвальвацыі нехта хацеў зарабіць. Прыгадаем, што падзенне беларускага рубля на знешніх рынках тлумачылася падобнымі ж прычынамі. А некаторыя банкаўскія спецыялісты, якія працуюць на нашым рынку, напрамую расійскі крызіс звязваюць з тым, што заходнія інвестары пачалі масіравана скідваць акцыі, а рублі канверсавалі ў валюту, якую вывозілі за межы краіны.

У гэтай сувязі ўзнікае простае пытанне, якое гучыць прыкладна так: ці змогуць падзеі ў Расіі нейкім чынам адбіцца на ходзе спраў і ў суседняй Беларусі? Банкіры лічаць, што ніякім чынам, таму што ў нас такога рынку няма: няма рынку — значыць няма і праблем.

Калі б сцэнарый у Расіі быў крыху іншы і там пайшлі на дэвальвацыю рубля — гэта, безумоўна, закранула б і нашу рэспубліку. Аднак, як лічаць зноўтакі беларускія спецыялісты, паколькі там вырашылі любой цаной утрымаць рубель, і як вынік, «паднялі» стаўку рэфінансавання да небывалых вышынь, нам нервавацца няма сэнсу.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## СЕЗОН ВОДПУСКАЎ СУПАЎ З СЕЗОННЫМ РОСТАМ ЦЭН

**У Беларусі ўзраслі цэны на санаторна-курортныя паслугі. Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу, у красавіку пуцёўкі падаражэлі на 16 працэнтаў. У маі іх кошт працягваў павялічвацца, хоць і не так значна.**

Зводны індэкс цэн у красавіку склаў 3,8 працэнта. Традыцыйна, у сувязі з пачаткам пашавага перыяду, падаражэла ялавічына — на 7 працэнтаў. Таксама ў сярэднім на 7 працэнтаў павялічыліся цэны на алей, маргарын, маянэз і цукар. Аднак несумненным лідэрам у сезонным росце дарагоўлі стала плодаагароднінная прадукцыя. Напрыклад, кошт белакачаннай капусты павялічыўся ў паўтара раза.

Як і меркавалася, папаўзлі ўверх цэны на паслугі жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Квартплата павялічылася на 20 працэнтаў, амаль на 30 працэнтаў падаражэла электраэнергія і на 38,9 працэнта — кошт прыроднага газу.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

## НОВЫ МАРШРУТ «БЕЛАВІЯ»

**Заўтра Беларуская нацыянальная авіякампанія адкрывае новую лінію Мінск—Прага.**

***Больш падрабязна пра сённяшні дзень нашай грамадскай авіяцыі, пра яе перспектывы чытайце ў інтэрв'ю старшыні Дзяржаўнага камітэта па авіяцыі Рыгора Фёдарава на 7-й старонцы.***

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ГАЛОЎНЫ «КОЗЫР» КАМІСІІ ПА МІЖНАРОДНЫХ СПРАВАХ

**Учора нарэшце было вырашана кадравае пытанне, якое ўзнікла ў Палаце прадстаўнікоў пасля прызначэння старшыні Камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД Леаніда Рачкова паслом Беларусі ў Іране.**

Як вядома, аднойчы парламент ужо спрабаваў запоўніць гэтую вакансію, але тады галасаванне не дало вынікаў: ніхто з кандыдатаў, якія змагаліся за пасаду старшыні камісіі, не атрымалі патрэбнай колькасці галасоў сваіх калег. Паўторнае галасаванне аказалася больш удалым. У выніку яго камісію ўзначаліў Аляксандр Козыр, які да гэтага часу быў намеснікам старшыні камісіі.

Аднак перамога яму дасталася не адразу. Нягледзячы на тое, што Савет Палаты прадстаўнікоў прапанаваў дэпутатам выбары на безальтэрнатыўнай аснове па кандыдатуры А. Козыра, матывуючы гэта тым, што ён падчас мінулага галасавання набраў большую колькасць галасоў, чым яго сапернік Пятро Жушма, парламентарыі не пайшлі па такому шляху. Яны выступілі за ранейшы парадак вырашэння гэтага пытання. У выніку было вылучана пяць кандыдатур: А. Азарчанкаў, П. Жушма, А. Козыр, А. Малахоўскі і А. Шпілеўскі. Двое апошніх адразу ўзялі самаадвод, а першы тур галасавання вызначыў лідэрамі зноў А. Козыра і П. Жушму. Убачыўшы, што вынікі галасавання складваюцца на карысць А. Козыра (яго падтрымалі 47 дэпутатаў), П. Жушма (набраў 22 галасы) выйшаў з гульні. Другі тур, які праводзіўся, такім чынам, на безальтэрнатыўнай аснове, і зрабіў былога намесніка старшыні камісіі яе кіраўніком.

Акрамя кадравага пытання, учора было дадаткова ўключана ў парадак дня чацвёртай сесіі каля дзесятка новых законапраектаў. Сярод іх найбольшую цікавасць выклікае прапанова Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню. З яе падачы парламент згадзіўся разгледзець на бягучай сесіі праект Закона «Аб уключэнні ў састаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання, якія падалі заявы аб згодзе працаваць у Палаце прадстаўнікоў, але не трапілі ў яе састаў».

З'яўленне гэтай прапановы тлумачыцца тым, што па прычыне смерці двух дэпутатаў у Палаце прадстаўнікоў з'явіліся дзве вакансіі, якія плануецца запоўніць за кошт вышэйназванай катэгорыі дэпутатаў.

Сярод дакументаў, якія парламент мяркуе разгледзець да канца мая, таксама з'явіліся законапраект «Аб гаспадарчых судах», праекты змяненняў у Законы «Аб дзяржаўным бюджэце на 1998 год», «Аб ветэрынарнай справе» і некаторыя іншыя.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*ЗДАРЭННІ*

## У ВІЦЕБСКУ ЗАТРЫМАНА КРЫМІНАЛЬНАЕ ТРЫО

Са з'яўленнем інтэрнацыянальнага трыо спакойнае жыццё аднаго з віцяблян, рабочага мясакамбіната, скончылася. У рэшце рэшт вымагальнікі настолькі надакучылі сваімі «просьбамі» чалавеку, што той быў вымушаны звярнуцца па дапамогу: справа дайшла да крайняй мяжы — рабочаму пагражалі забойствам і знішчэннем маёмасці.

Мінчанін, аршанец і жыхар Грузіі патрабавалі ад сваёй ахвяры 1500 долараў ЗША. Дакладна невядома, чым жа правініўся віцяблянін, аднак першай ластаўкай, якая пацвярджала сур'ёзнасць прэтэнзій злачынцаў, стала «канфіскацыя» «Форда». Далей і таго горш — дайшло да папярэджання аб забойстве. Карацей, цярпець далей не было магчымасці. Супрацоўнікі Камітэта па арганізаванай злачыннасці хутка «раскусілі» вымагальнікаў. Усе яны затрыманы.

На няпэўны час, пакуль будзе весціся разбор, паблізу вёскі Цыбары Лідскага раёна затрыманы грамадзянін Польшчы і грамадзянін Расіі. Пры даглядзе ў іх «Мерседэсе» быў знойдзены пісталет замежнай вытворчасці з двума магазінамі да яго. Акрамя агнястрэльнай зброі ў машыне супрацоўнікі дарожна-паставой службы знайшлі і своеасаблівы клад: у салоне знаходзілася больш чым 2,5 кілаграма ювелірных вырабаў...

**Ігар ГРЫШЫН.**

## АСНОЎНАЯ ДОЛЯ ЗЛОЎЖЫВАННЯЎ ВАКОЛ БАБРУЙСКАГА ГІДРОЛІЗНАГА ЗАВОДА ПРЫПАДАЕ НА ЎТОЙВАННЕ ДАХОДАЎ АД ПАДАТКААБКЛАДАННЯ

**Расследаванне злоўжыванняў на Бабруйскім гідролізным заводзе пачалося летась у кастрычніку з праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці прадпрыемства, аб першых выніках якой і было даложана прэзідэнту краіны. Тады было вырашана накіраваць на завод камісію Савета бяспекі, і літаральна праз некалькі тыдняў яе работы было ўзбуджана ў адносінах да службовых асоб гідролізнага восем крымінальных спраў, якія пазней аб'ядналі ў адну.**

Па сутнасці, злоўжыванні адбываліся не толькі на ўласна гідролізным заводзе. Расследаванне ахоплівае таксама дзейнасць Бабруйскага мытнага паста, па справе праходзяць больш як 75 беларускіх і 200 расійскіх камерцыйных фірмаў, чатыры цукровыя і шэраг спіртавых заводаў Беларусі.

— Асноўная доля злоўжыванняў звязана з утойваннем даходаў ад падаткаабкладання і, у меншай ступені, з крадзяжамі, — растлумачыў у інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды» кіраўнік аператыўна-следчай групы, следчы аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй Магілёўскай абласной пракуратуры Леанід Палевіч. — Усе злачынныя дзеянні мелі карыслівую накіраванасць ці, калі казаць прасцей, наносілі ўрон у асабліва буйных памерах дзяржаве і прадпрыемствам на карысць павелічэння асабістых даходаў.

Дакладна вызначыць памер нанесенага дзяржаве ўрону аператыўна-следчая група пакуль не бярэцца: не завершана рэвізія на гідролізным заводзе, ды і следчыя мерапрыемствы зараз у самым разгары. На гэты момант рэальна спагнана ў бюджэт 50 мільярдаў рублёў у выглядзе недаплаты падатковых і мытных плацяжоў, штрафных санкцый. Але ўжо зараз, паводле прыблізных падлікаў следчых, сума выяўленага ўрону перавышае 100 мільярдаў рублёў.

Вельмі верагодна, што па ходу расследавання, якое пакуль прадоўжана да 29 чэрвеня, памер урону будзе ўсё павялічвацца, бо гэтая крымінальная справа адносіцца да ліку маштабных. Трэба праверыць яшчэ мноства суб'ектаў гаспадарання, вялікія праблемы ўзнікаюць і з камерцыйнымі фірмамі, якія мелі справу з гідролізным заводам і набывалі выраблены тут спірт. Большасць з іх, сцвярджае Леанід Палевіч, з'яўляюцца падстаўнымі, рэальна яны не існуюць. Ёсць выпадкі, калі выкарыстоўваліся рэквізіты і пячаткі фірмаў, якія ніколі і не чулі пра горад Бабруйск і тамашні гідролізны завод, а іхнія пячаткі, як потым высвятляецца, былі калісьці скрадзены або згублены. Грошы за спірт паступалі з карэспандэнцкіх разліковых рахункаў, таму падатковым інспектарам цяжка прасачыць іх рух, а таксама ўстанавіць, хто канкрэтна павінен плаціць падаткі...

Следству яшчэ трэба дакладна высветліць механізм злачынных дзеянняў. Але і зараз ёсць факты, што вытворчасць этылавага спірту на гідролізным заводзе і выкарыстанне яго для вырабу гарэлкі прыносіла вялікія прыбыткі, але «ланцуг» быў пабудаваны такім чынам, сцвярджаюць следчыя, каб хаваць іх ад падаткаабкладання.

— Сыравіна для вытворчасці спірту пастаўлялася з былых рэспублік Саюза пад няправільнымі кодамі, каб не спаганяліся мытныя плацяжы, — тлумачыць сэнс справы кіраўнік аператыўна-следчай групы. — У гэтым і праяўляецца сувязь крымінальнай справы з дзейнасцю мытнага паста ў Бабруйску. А вытворчасць спірту ішла яшчэ і з парушэннем нарматыўна-тэхнічнай дакументацыі. У выніку чысты прыбытак атрымліваўся каля 400 працэнтаў! Дадайце да гэтага той факт, што камерцыйныя фірмы набывалі на гідролізным заводзе не харчовы, а тэхнічны спірт, бо акцызны падатак на яго быў у чатыры разы меншы, чым на харчовы.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## НІ ДНЯ БЕЗ УСМЕШКІ

*Муж і жонка зранку прачнуліся, але ніхто з ложка не ўстае. Гадзіну ляжаць, другую, трэцюю...*

*— Каву будзеш? — не вытрымлівае муж.*

*— Буду.*

*— Тады і мне кубачак прынясі.*

*

*Даішнік стаіць на пасту. На вуліцы дождж, слота, настрой — горш не бывае. Спыняе адну машыну — усё нармальна, другую, трэцюю, — няма нават да чаго прычапіцца... Прыходзіць дадому ўвесь мокры, злы, крычыць на сына:*

*— Дзённік, абэлтус, сюды!*

*Гартае дзённік і бачыць паміж старонкамі пакладзеныя 20 тысяч рублёў:*

*— Ну, дзякуй Богу, што хоць дома ўсё ў парадку.*




Малюнак Аляксандра СКРЫПКО.

## ВАСІЛЮ БЫКАВУ ЎРУЧАНА ІТАЛЬЯНСКАЯ ПРЭМІЯ

як адзнака найвышэйшай чалавечай маралі. Менавіта такое вызначэнне ў дачыненні да ўзнагароджання народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава прэміяй «Залатога Сан-Валянціна» акрэсліў пасол Італіі ў Рэспубліцы Беларусь Джавані Чаруці. Відаць, не лішнім будзе нагадаць, што ва ўсім свеце Сан-Валянціна, Святога Валянціна, лічаць не толькі заступнікам усіх закаханых, але і ўсіх, хто любіць бліжняга. Прэміяй «Залатога Сан-Валянціна», якая заснавана 14 лютага 1968 года, ушанаваны самыя розныя знакамітыя дзеячы літаратуры, мастацтва, культуры, навукі, спорту ўсяго свету. А гэта ў іх шэрагу — і пісьменнік Аляксандр Салжаніцын, і рэжысёр Мікеланджэла Антаніёлі, і прэзідэнт камітэта па прысуджэнню Нобелеўскіх прэмій Андрэ Оэстэрлінг.

Не выпадковым трэба лічыць той факт, што ўшанаванне Васіля Быкава адбывалася ў Доме дружбы. Варта нагадаць, што ў свой час менавіта Васіль Быкаў ва ўсю моц сваёй грамадзянскай пазіцыі звярнуў увагу да праблемы дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай трагедыі. Дзякуючы пісьменніку і садзейнічанню Беларускага таварыства дружбы ініцыятыва набыла міжнародны размах. Якраз пра гэта таксама гаварыў Джавані Чаруці.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

### *ВАКОЛ СПОРТУ*

## ЗАРПЛАТУ АТРЫМАЦЬ — НЕ ПОЛЕ ПЕРАЙСЦІ

За суткі да ўчарашняй сустрэчы футбольных клубаў «Маладзечна» і «Дынама»(Мінск) так і не было вядома: ці выйдуць дынамаўцы на гэтую гульню. Прычына да болі знаёмая — футбалісты па-ранейшаму не атрымліваюць зарплату.

Здавалася, пасля вядомай нарады са спартыўнымі чыноўнікамі, справа па гэтаму пытанню зрушылася — дынамаўцам паабяцалі да 1 чэрвеня (спадзяёмся, што гэтага года) выплаціць усе запазычанасці за пяць месяцаў. На ўчарашні дзень, між тым, спартсменам «пагасілі» з выдзеленага Мінгарвыканкамам крэдыту толькі пятую частку ад абяцанага.

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» выконваючы абавязкі прэзідэнта «Дынама» Леанід Гарай, футбалістаў усё ж-такі ўгаварылі выйсці на ўчарашнюю гульню. Аднак у мінулую пятніцу былы дынамаўскі прэзідэнт Яўген Хвастовіч заявіў, што, калі клуб бярэ пад сваю апеку дзяржава, то няхай дзяржава і выплачвае спартсменам зарплату. Дарэчы, пытанне аб пераходзе футбольнага клуба «Дынама» на дзяржаўныя «рэйкі» зараз, як кажуць, знаходзіцца ў стадыі распрацоўкі і павінна быць вырашана недзе за месяц. Калі да таго часу футбалісты не разбягуцца...

**Алесь СІВЫ.**

### *СПОРТ-ЭКСПРЭС*

#### *Хакей на траве*

## «РЫТМ» — ГЭТА ГУЧЫЦЬ ГОРДА

Жаночая каманда па хакею на траве з Гродна з лаканічнай назвай «Рытм» упершыню за 20-гадовую гісторыю развіцця гэтага віду спорту ў Беларусі прабілася ў васьмёрку мацнейшых каманд Еўропы і ў будучым годзе будзе гуляць на Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў у групе «А». Гэта стала магчыма пасля таго, як гараднічанкі выйгралі адборачны турнір ва уэльскім горадзе Кардыф. Напачатку саперніцамі беларусак былі ірландская каманда «Мікрос», малдаўская «Ціратэх» і французская «Стайд». Усе тры сустрэчы «Рытм» выйграў адпаведна 3:2, 3:0, 3:1. У фінале гараднічанак чакала пражская «Славія» — пераможца другой групы. Асноўны час сустрэчы завяршыўся ўнічыю — 1:1. Па серыі пенальці больш дакладнымі былі беларускі 4:2.

Праўда, спачываць на лаўрах нашым хакеісткам не прыйдзецца. У пачатку ліпеня зборную Беларусі (а гродзенскі «Рытм» з'яўляецца базавай камандай) чакае ў Фінляндыі адборачны турнір да чэмпіянату Еўропы, фінал якога пройдзе на наступны год у Італіі. Тры запаветныя пуцёўкі на Апеніны будуць аспрэчваць 7 зборных кантынента. Прыкладна ў гэты час, але ў Іспаніі, правядзе такі ж адборачны турнір мужчынская зборная Беларусі. Праўда, тут скрыжуюць клюшкі ўжо 8 нацыянальных каманд, ды і пуцёўкі ў фінал чэмпіянату Еўропы-99, што адбудзецца ў Германіі, усяго дзве.

#### *VI Прыбалтыйскія гульні*

## ЗА НАМІ — ГЕРМАНІЯ І ШВЕЦЫЯ

У польскім горадзе Гдыня нядаўна завяршыліся VI Прыбалтыйскія гульні гарадоў-пабрацімаў, у якіх прынялі ўдзел 6 каманд. Беларусь прадстаўлялі Баранавічы, Германію — Кіль, Швецыю — Келонія, Польшчу — Гдыня, Расію — Калінінград, Літву — Клайпеда.

З чатырох відаў праграмы нашы ўдзельнічалі ў футболе, жаночым гандболе і настольным тэнісе. Не пад сілу аказалася толькі парусная рэгата. Сярэдні ўзрост удзельнікаў не перавышаў 15 гадоў.

Вынік трохдзённай барацьбы такі: баранавіцкія спартсмены заваявалі агульнакаманднае 4-е месца (2-е ў гандболе, 3-е — у футболе, і 4-е — у настольным тэнісе). Першынствавалі ж гаспадары турніру. Другое і трэцяе месцы занялі адпаведна Літва і Расія. За намі засталіся Германія і Швецыя.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

### *ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

Больш чым на 20 тысяч вырасла за мінулы год колькасць крадзяжоў у германскіх магазінах — іх было зафіксавана 677.542. На першым месцы сярод выкрадзенага стаіць касметыка — 23 працэнты. Затым ідуць: адзенне — 11 працэнтаў, бытавая электроніка — 8,8, упрыгажэнні — 6,5 і толькі на пятым месцы прадукты харчавання — 6,3 працэнта. Устаноўлена, што ўкрасці з паліц тавар спрабуе кожны трэці падлетак. Толькі аднаго з дзесяці зладзеяў, па ацэнцы экспертаў, удаецца схапіць за руку. А ўсе разам яны летась выкралі з магазінаў тавараў на 91 мільярд марак.

**ІТАР-ТАСС**

Амерыканская кампанія «РМС Тытанік», якой належыць права на рэшткі аднайменнага суперлайнера, звярнулася ў суд у спробе спыніць запланаваныя турыстычныя рэйсы да месца гібелі гэтага судна. Фірма, якая арганізавала гэтыя падарожжы, прапануе сваім кліентам пагружэнні ў акіянскія глыбіні ў спецыяльным батыскафе для агляду «Тытаніка». Амерыканцы заяўляюць, што падобныя экскурсіі перашкодзяць іх уласнай экспедыцыі. У ходзе гэтай экспедыцыі амерыканская кампанія мае намер падняць з акіянскага дна частку корпуса «Тытаніка» і рэчы або дэталі, якія захаваліся да гэтага часу.

**Асашыэйтэд Прэс**

### *ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ДВОЕ БЕЛАРУСКІХ ГРАМАДЗЯН ЗАБІТЫ НА ПОЛЬСКА-ГЕРМАНСКАЙ МЯЖЫ

Сталі вядомыя новыя падрабязнасці злачынства, учыненага ў дачыненні да групы беларускіх грамадзян (прозвішчы пакуль не паведамляюцца) у горадзе Згажэльцы (Польшча) 26 мая.

Як паведаміў БелаПАН прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі ў Рэспубліцы Польшча Сяргей Рухлядзеў са слоў пацярпелых, васьмёра грамадзян Беларусі — чацвёра з Мінска, чацвёра з Брэста, — вечарам былі абстраляны невядомымі з аўтамата на адной з вуліц горада з акна пад'ехаўшага да іх аўтамабіля «Мерседэс». Двое былі забіты на месцы, трое — паранены (адзін лёгка).

Цяпер у бальніцы Згажэльца знаходзяцца двое пацярпелых, трэці, як паведамілі палякі, збег. Адзін з беларускіх грамадзян даволі сур'ёзна паранены ў нагу і, як сказаў С. Рухлядзеву ўрач, у залежнасці ад далейшага развіцця падзей пытанне можа стаяць нават аб ампутацыі: кулю, якая засела ў калене, медыкі дастаць пакуль не могуць. Праўда, далечвацца ён, хутчэй за ўсё, будзе ў Беларусі. Як паведаміў БелаПАН беларускі консул Анатоль Вірко, плануецца, што з дапамогай Міністэрства аховы здароўя рэспублікі паранены будзе дастаўлены на радзіму. Што да стану другога параненага, то, па словах А.Вірко, магчыма, днямі ён будзе выпісаны з бальніцы і вернецца дадому.

У бальніцы грамадзяне Беларусі знаходзяцца пад аховай паліцыі.

На думку С. Рухлядзева, такія меры перасцярогі прымаюцца па дзвюх прычынах. Па-першае, каб не дапусціць паўторнага нападу.

Па-другое, пацярпелыя «ўяўляюць цікавасць для польскай паліцыі, да іх ёсць яшчэ пытанні». Дарэчы, расследаваннем злачынства займаецца ваяводская камендатура і, па словах С. Рухлядзева, яна падыходзіць да гэтай справы вельмі сур'ёзна. «І для Польшчы гэтая падзея не радавая», — падкрэсліў ён.

Па словах С. Рухлядзева, пацярпелыя не змаглі толкам растлумачыць, для чаго група з васьмі чалавек прыбыла ў Згажэлец. Сам жа горад, сказаў ён, славіцца тым, што ў свой час тут была сфера ўплыву ўкраінскіх злачынных груп. Самі пацярпелыя адмаўляюць, што гэтае здарэнне мае хоць якія адносіны да «крымінальных разборак» і настойваюць на тым, што гэта была выпадковасць. Але, як заўважыў Сяргей Рухлядзеў, «ні з таго ні з сяго з аўтамата ў людзей страляць не будуць...» Пакуль жа, як паведаміў Анатоль Вірко, ідзе следства і пасольства не мае даных, ці затрыманы хто-небудзь.

«Я як консул вельмі задаволены, што гэтая справа атрымлівае агалоску, — заявіў Анатоль Вірко. — Бо сёння бытуе стэрэатып, маўляў, з Усходу прыязджаюць, самі адзін аднаго рабуюць і гэтак далей. Гэта можна часта пачуць у польскай прэсе.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## АСНОЎНАЯ ДОЛЯ ЗЛОЎЖЫВАННЯЎ ВАКОЛ БАБРУЙСКАГА ГІДРОЛІЗНАГА ЗАВОДА ПРЫПАДАЕ НА ЎТОЙВАННЕ ДАХОДАЎ АД ПАДАТКААБКЛАДАННЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Але ж уся справа ў тым, што тэхнічны спірт, выраблены ў Бабруйску, дасягае такога ўзроўню якасці, што па некаторых параметрах нават пераўзыходзіць харчовы. Вось такім чынам: і гарэлкай з такога спірту людзей не труцілі, і прыбыткі мелі каласальныя.

Пасля апошняга паведамлення прэс-службы КДБ па Магілёўскай вобласці пра новы арышт па справе злоўжыванняў вакол Бабруйскага гідролізнага завода (а ўсяго было затрымана 14 чалавек) лічба гэта не павялічылася, а, наадварот, паменшылася.

Адзін матэрыял па фрагменту агульнай крымінальнай справы быў накіраваны ў суд. Ён датычыўся незаконнага захоўвання боепрыпасаў дырэктарам адной з камерцыйных фірмаў Бабруйска. Суд прызнаў гэтага чалавека вінаватым і вызначыў меру пакарання ў адзін год пазбаўлення волі.

Вызвалены з-пад варты галоўны бухгалтар гідролізнага завода. Следства ўзяло пад увагу вялікія праблемы са здароўем у гэтай жанчыны пенсійнага ўзросту і абмежавалася падпіскай аб нявыездзе. Тым больш, што ўсе асноўныя асобы, якія праходзяць па справе, арыштаваны, сувязь з імі перарвана, неабходныя дакументы канфіскаваны, а таму, лічаць следчыя, галоўны бухгалтар ніяк не можа на волі паўплываць на ход следства.

Па-ранейшаму пад вартай застаюцца дырэктар гідролізнага завода Дамір Калінкін — асоба вядомая ў дзелавых колах Беларусі. На сённяшні дзень яму прад'яўлена абвінавачанне ў злоўжыванні службовым становішчам і крадзяжы. Як нам паведамілі ў аператыўна-следчай групе, Дамір Калінкін утрымліваецца ў адным са сталічных следчых ізалятараў. І, больш таго, тут былі ўлічаны і былыя заслугі дырэктара, і ягоны паважны ўзрост, і не вельмі добры стан здароўя, а таму ўмовы ўтрымання ў ізалятары досыць прымальныя.

Кіраўнік аператыўна-следчай групы Леанід Палевіч разумее, які вялікі рэзананс у грамадстве выкліча ўзначальваемае ім расследаванне, але яму, па прызнанню, вельмі не хацелася б, каб вакол справы ўзнікаў нездаровы ажыятаж і чуткі пра нейкія рэпрэсіі.

— Зазначу, што такая колькасць арыштаў звязана не з тым, што гэтыя людзі з'яўляюцца сацыяльна небяспечнымі, — яны ж, пагадзіцеся, не забойцы і не рабаўнікі, — тлумачыць Леанід Палевіч. — Але мы б не хацелі, каб яны перашкодзілі аб'ектыўнаму разбору, каб мы маглі дакладна вызначыць, хто з іх вінаваты і наколькі. Справа вельмі складаная, арыштаваныя, абараняючы сябе, даюць супярэчлівыя паказанні адзін супраць другога. Але ніякага ўціску на следчых няма, наша галоўная задача — аб'ектыўнасць.

А тым часам працоўны калектыў Бабруйскага гідролізнага завода змагаецца за сваё выжыванне. Па словах выконваючага абавязкі дырэктара Чэслава Янкоўскага, абстаноўка на прадпрыемстве пакрысе нармалізуецца. Праўда, дасягнуць леташніх аб'ёмаў вытворчасці пакуль не ўдаецца — толькі 45 працэнтаў па выніках першага квартала. Па разліках, за гэты год завод выйдзе на ўзровень 70 працэнтаў да ўзроўню мінулага года. У асноўным гэта звязана з тым, што апошнія два гады гідролізны працаваў на незвычайным уздыме, а вось паказчыкаў 1990 года, на які зараз арыентуецца народная гаспадарка краіны, завод ужо дасягнуў і нават пакрочыў далей.

Сённяшняе кіраўніцтва робіць усё для таго, каб вярнуцца да ранейшых сыравінных крыніц. Праўда, дзелавыя партнёры завода пакуль ставяцца да яго досыць насцярожана, бо «дрэнная рэклама» сваю справу зрабіла: там, дзе гідролізны адразу плаціць грошы, — усё ў парадку, а вось там, дзе гаворка ідзе пра растэрміноўкі ці ўступкі, — партнёры адразу ўспамінаюць пра «крымінальнае гняздо».

Спачатку было вельмі цяжка і са збытам прадукцыі, бо камерсанты не спяшаліся забіраць нават аплачаны спірт, баючыся складанасцяў з праваахоўнымі органамі. Аднак следства дакладна вызначыла сваю тактыку: не забараняецца вырабляць і прадаваць спірт, але рабіць гэта трэба законна. Калі баяцца прыязджаць — значыць, нешта не ў парадку. Таму і прэтэнзіі наконт таго, што расследаванне давяло завод да галечы, аператыўна-следчая група не прымае. Як і прэтэнзіі наконт памяншэння заработнай платы на гідролізным.

Леанід Палевіч лічыць, што яе ранейшы высокі ўзровень тлумачыўся недапаступленнем грошай у бюджэт. Напрыклад, у кастрычніку мінулага года прыбіральшчыца там зарабляла тры мільёны рублёў, а радавы работнік — шэсць мільёнаў (параўнайце з цяперашнім сярэднім заробкам па выніках чатырох месяцаў гэтага года — чатыры мільёны рублёў). Лішкі грошай прадпрыемства пералічвала нават фінансавым кампаніям на аперацыі з каштоўнымі паперамі, аплачваліся і дарагія пуцёўкі на адпачынак — у асноўным для начальнікаў...

А вось цяперашняе кіраўніцтва завода не стамляецца сцвярджаць, што гідролізны заўсёды спраўна плаціў падаткі, а за дзейнасць камерцыйных фірмаў, якія заключалі з заводам здзелкі і рабілі належныя адлічэнні ў бюджэт, працоўны калектыў не жадае і не можа несці адказнасць. У мінулым годзе Бабруйскі гідролізны пералічыў у бюджэт 183 мільярды рублёў.

На чыім баку больш праўды, на дадзены момант не вельмі важна. Галоўнае, што людзі і ў самы напружаны момант не спяшаліся звальняцца з завода. Вядома, выконваючыя абавязкі кіраўнікоў праводзілі сходы і імкнуліся растлумачыць сітуацыю рабочым, якія спачатку не жадалі разумець, чаму за тую ж работу ім плацяць цяпер значна меншыя грошы. Напэўна, сітуацыю ў эканоміцы рабочыя ўлічылі таксама: знайсці ў наш час высокааплатную работу здольны далёка не кожны, а таму і спадзяюцца больш на роднае прадпрыемства і здольнасць новага кіраўніцтва «выкараскацца» з даўгавой ямы.

Больш за ўсё на гідролізным заводзе баяцца спынення вытворчасці. Такое адбылося напрыканцы мінулага года, калі мытны камітэт выставіў рахунак у памеры 91 мільярда рублёў. Выплаціць такую суму заводу было яўна не пад сілу, бо нават у самыя свае лепшыя часы месячны аб'ём прадукцыі складаў каля 50 мільярдаў рублёў. Не здолеўшы разлічыцца за энергію і з бюджэтам, завод спыніўся. Але зараз вытворчасць паступова выходзіць з крызіснага становішча.

Але праблема з мытнымі плацяжамі пакуль не знята з парадку дня. Засталося выплаціць яшчэ 41 мільярд рублёў, і дасюль невядома, што яшчэ будзе са штрафамі і пеняй, бо гэта таксама будзе салідная сума. Выконваючы абавязкі дырэктара Чэслаў Янкоўскі лічыць (і пацвярджае гэта дакументальна), што пеню і штрафы з завода трэба зняць і даць растэрміноўку па мытных плацяжах да 2000 года згодна з пэўнымі ўказамі прэзідэнта. Калі б так адбылося, лічаць на гідролізным, то завод у недалёкім будучым дакладна выйшаў бы з крызіснай сітуацыі. Аднак на гэты момант адпаведны іск гідролізнага завода абласны суд не прыняў, палічыўшы неабходным дачакацца завяршэння расследавання крымінальнай справы.

Абласная выканаўчая ўлада, якая справядліва заклапочана папаўненнем бюджэту, настойвае на тым, што, нягледзячы на ўсе праверкі і крымінальнае расследаванне, завод павінен працаваць на поўную магутнасць, а для гэтага трэба ў першую чаргу вырашыць арганізацыйныя пытанні яго далейшай работы. Як паведаміў губернатар Аляксандр Кулічкоў, з кіраўніцтвам краіны дасягнута дамоўленасць, што ў бліжэйшыя дні аблвыканкам вызначыцца з саставам адміністрацыі прадпрыемства, узгодніць яго і заключэннем кантрактаў выкажа давер новай «камандзе», якая будзе працаваць на гідролізным заводзе. З усім астатнім разбяруцца сілавыя структуры, і, зразумела, апошнюю кропку ў гэтай справе паставіць суд.

**Ілона ІВАНОВА.**

## СЕКС У БІЗНЕС-КЛАСЕ: СКАНДАЛ НА ВЫШЫНІ 10 ТЫСЯЧ МЕТРАЎ

«Пасажыры рэйса Лондан—Йаханесбург узбунтаваліся. Прычына гэтага — паводзіны пары любоўнікаў, якія аддаліся радасцям сексу на вышыні 10 тыс. метраў прама ў крэслах перапоўненага бізнес-класа авіякампаніі «Саут Афрыкэн эрлайнз».

Мужчына з англійскім гаварам і яго сяброўка-індыянка не звярталі ўвагі на пратэсты суседзяў і экіпажа. Толькі камандзір карабля, кінуўшы кабіну, змог навесці парадак.

«Яны паводзілі сябе, быццам нас няма», — расказала адна пасажырка. Але скандальная парачка з «Боінга» не адзіная. У сексу ў самалёце ўсё больш паклоннікаў. У сетцы Інтэрнет паявіўся нават «Клуб любоўнікаў на вялікай вышыні».

*«Кар'ерэ дэла сера»* **(Італія)**

## ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА ВЫПУСЦІЛІ ПАД ПАДПІСКУ АБ НЯВЫЕЗДЗЕ

**Лідэр «Маладога фронту» 21-гадовы Павел Севярынец, 3 чэрвеня быў адпушчаны з мінскага следчага ізалятара пад падпіску аб нявыездзе з горада Віцебска, дзе ён прапісаны, да суда.**

Як паведамілі ў праваабарончым цэнтры «Вясна-96», канчатковага абвінавачання ён яшчэ не атрымаў, таму тэрмін суда над ім пакуль невядомы. Два месяцы П. Севярынец быў пад следствам па артыкуле 201, ч.2 Крымінальнага кодэкса (хуліганства) за выпадак са зрывам прадстаўнікамі апазіцыйных сіл фальклорнага канцэрта на плошчы Якуба Коласа ў Мінску ў дзень яднання Расіі і Беларусі 2 красавіка. На думку прадстаўнікоў пракуратуры Мінска, гэтыя дзеянні «выказвалі яўную непавагу да грамадства і насілі дзёрзкі характар».

Як паведаміла сталічная пракуратура, рашэнне аб змяненні меры стрымання на падпіску аб нявыездзе П. Севярынцу прынята «з улікам звароту групы дэпутатаў Мінскага гарадскога савета». Аднак тэрмін следства прадоўжаны для таго, каб устанавіць іншых асоб, якія актыўна ўдзельнічалі ў названых вышэй процiпраўных дзеяннях.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

### *ВЕРСІІ*

## Генсек УЕФА папярэджвае: Беларусь можа застацца без вялікага футбола

Апошнія каляфутбольныя падзеі, звязаныя з навядзеннем парадку ў Беларускай федэрацыі футбола і адстаўцы яго прэзідэнта Яўгена Шунтава, атрымалі водгук у еўрапейскіх футбольных колах.

Днямі ў Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь за подпісам генеральнага сакратара УЕФА Герхарда Айгнера прыйшоў факс, дзе, у прыватнасці, гаворыцца: «У адпаведнасці з паведамленнямі сродкаў масавай інфармацыі... прэзідэнт футбольнай асацыяцыі спадар Яўген Шунтаў быў ці будзе адхілены ад выканання сваіх абавязкаў...

У выпадку рэальнага ўмяшання ў справы футбольнай асацыяцыі, УЕФА будзе вымушана дыскваліфікаваць Асацыяцыю футбола Беларусі з неадкладным выкананнем... Прыміце да ведама, што дыскваліфікаваная нацыянальная асацыяцыя:

1. Пазбаўляецца права голасу і выбарчага права на кангрэсе УЕФА.

2. Не можа развіваць міжнародныя футбольныя кантакты, а гэта азначае, што нацыянальныя зборныя і клубныя каманды вашай краіны не могуць удзельнічаць у футбольных матчах. Само сабой зразумела, што гэта выкліча сур'ёзныя наступствы для развіцця беларускага футбола».

Цяжка сказаць, ці будзе нейкі нечаканы працяг у гэтай гісторыі. Хоць трэба меркаваць, што змена прэзідэнта БФФ адбудзецца ў час правядзення чарговай футбольнай канферэнцыі, якая павінна прайсці ў снежні 1999 года.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

ПРАВА НА ЖЫЛЛЁ



Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

# Галоўны накірунак — будаўніцтва жылля на вёсцы

**Праблема з жыллём — адна з самых вострых. З пераходам да рынку людзі апынуліся сам-насам з цяжкасцямі, якія трэба пераадольваць, самастойна вырашаючы жыллёвыя пытанні.**

**Якім шляхам дзяржава дапамагае сваім грамадзянам будаваць жыллё, у гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» расказвае намеснік міністра архітэктуры і будаўніцтва Беларусі Аляксандр Дзям'янавіч СІДАРЭНКА.**

— Сёння ў міністэрстве працуе штаб па арганізацыі жыллёвага будаўніцтва, у якім мы кожны тыдзень аналізуем ход будаўніцтва.

**— Па якіх асноўных накірунках ідзе зараз развіццё жыллёвага будаўніцтва ў краіне?**

— У цяперашні час працягнута дзеянне 4 указаў прэзідэнта краіны па развіццю жыллёвага будаўніцтва. Зноў пачаў дзейнічаць указ № 516 аб будаўніцтве жылля жыллёва-будаўнічымі кааператывамі. Працягнута фінансаванне ўказаў № 358 і № 483 аб будаўніцтве жылля для моладзі і вайскоўцаў. У сакавіку ў дзеянне ўступіў указ № 98 аб дадатковых мерах па развіццю жыллёвага будаўніцтва на вёсцы. Рыхтуецца ўказ, згодна з якім будзе працягнута льготнае крэдытаванне індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва.

**— Як вы ацэньваеце работу будаўнікоў сёлета?**

— За 4 месяцы гэтага года здадзена ў эксплуатацыю 586,1 тысячы квадратных метраў жылля, што на 35 працэнтаў больш у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Зараз наша галоўная задача не проста як мага больш пабудаваць жылля, а максімальна рацыянальна выкарыстоўваць выдзеленыя дзяржавай сродкі. Папершае, трэба скараціць незавершанае будаўніцтва. Неабходна здаць у эксплуатацыю тыя будынкі, будаўніцтва якіх было пачата ў 1992 — 1996 гадах. Акрамя таго, трэба эфектыўна выкарыстоўваць тыя будынкі і збудаванні, якія спярша не прызначаліся пад жыллё. Сёння іх трэба перабудаваць і правесці рэканструкцыю. Практычна ў кожным пасёлку ці горадзе ёсць такія будынкі. Зараз створаны механізм, які дазваляе прафінансаваць незавершанае будаўніцтва жылля.

**— Як вядома, зарплата ў жыхароў сельскай мясцовасці вельмі малая. Маючы такія заробкі, наўрад ці магчыма нават за ўсё жыццё пабудаваць сабе дом. Што робіцца ўрадам краіны, каб дапамагчы вяскоўцам?**

— Будаўніцтву жылля на вёсцы сёлета ўдзяляецца асаблівая ўвага. У мінулым годзе нам удалося пераадолець спад. За год было пабудавана каля 700 тыс. квадратных метраў жылля. Ужо сёлета на вёсцы плануецца здаць пад ключ 902,5 тыс. квадратных метраў. Такім чынам, неабходна пабудаваць каля 10 тысяч адзінак жылля — кватэр і дамоў. Нашым міністэрствам прыняты шэраг дакументаў, якія спрасцілі працэдуру адводу зямельных участкаў, а таксама працэдуру распрацоўкі і экспертызы праектна-каштарыснай дакументацыі. Апошнім прэзідэнцкім указам крэдытныя рэсурсы сталі больш даступнымі для сельскіх жыхароў і сельгаспадарчых прадпрыемстваў. Зараз напрыклад, ільготны крэдыт сельскаму жыхару выдаецца пад узвядзенне жылля ў памеры 95 працэнтаў кошту сядзібы. Раней было 90 працэнтаў. Акрамя таго, крэдытуецца не 20 кв. метраў жылля, як было раней, а 30 кв. метраў агульнай плошчы ў разліку на аднаго члена сям'і. Разлічвацца за крэдыты сёння стала таксама лягчэй. Зараз пачынаць пагашаць крэдыт і выплачваць працэнты па ім трэба толькі праз 3 гады пасля яго атрымання. За гэты тэрмін магчыма і пабудаваць дом, і абзавесціся гаспадаркай. Увогуле крэдыты выдаюцца на даволі спрыяльных умовах: пад 5 працэнтаў гадавых, тэрмінам на 40 гадоў. Праграмай сельскага будаўніцтва прадугледжана пабудаваць у сярэднім не меней 4 дамоў у кожнай гаспадарцы.

**— Хто сёння можа разлічваць на бясплатнае дзяржаўнае жыллё?**

— Зараз у рэспубліцы каля 600 тыс. сем'яў стаяць у чарзе маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Усе яны, згодна з Жыллёвым кодэксам, маюць права атрымаць дзяржаўнае жыллё. Так, згодна з заканадаўствам, існуе амаль 20 катэгорый грамадзян, якія маюць права на льготнае паляпшэнне жыллёвых умоў. Аднак, улічваючы цяжкае фінансава-эканамічнае становішча ў краіне, урад вырашыў прадастаўляць дзяржжыллё пераважна інвалідам і ўдзельнікам ВАВ, воінам-інтэрнацыяналістам, сем'ям загінуўшых і прапаўшых без весткі, афіцэрам Узброеных Сіл, звольненым у запас, перасяленцам з забруджаных раёнаў пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Сёлета мы для гэтых людзей павінны пабудаваць 255 тыс. квадратных метраў сацыяльнага жылля. Атрымліваецца, што да канца гэтага года 4,5 тысячы сем'яў атрымаюць бясплатныя дзяржаўныя кватэры.

**— Як доўга трэба чакаць, каб атрымаць ільготны крэдыт. І ўвогуле, ці хопіць ільготных крэдытаў для ўсіх жадаючых?**

— Ільготныя крэдыты прадастаўляюцца грамадзянам строга ў парадку чарговасці згодна з тэрмінам пастаноўкі на ўлік маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Аднак на працягу кароткага прамежку часу ўсе жадаючыя атрымаць ільготныя крэдыты не змогуць. Справа ў тым, што дзяржаўная падтрымка грамадзян пры будаўніцтве жылля ажыццяўляецца не па адкрытай, бясконцага аб'ёму, крэдытнай лініі, а згодна з тымі сродкамі, якія ёсць у наяўнасці. Бывае, што ў невялікіх гарадах ільготныя крэдыты па той ці іншай лініі атрымліваюць амаль усе жадаючыя будавацца. Што датычыцца буйных гарадоў, то тут, каб атрымаць ільготны крэдыт, трэба прастаяць у чарзе маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў больш за 5 ці нават 10 гадоў.

**— Атрымліваецца, што адзіным выйсцем для людзей з сярэднімі даходамі з'яўляецца будаўніцтва жылля за ўласныя сродкі?**

— Гэта сапраўды так. Фінансавыя магчымасці дзяржавы вельмі абмежаваныя. У той жа час будаваць дамоў з кожным годам трэба ўсё болей і болей, каб цалкам задавальняць патрэбнасці грамадзян у жыллі. Таму трэба развіваць пазабюджэтнае фінансаванне будаўніцтва жылля. Але, каб як след запрацавала гэта сістэма, трэба не толькі распрацаваць механізм, згодна з якім будзе весціся пазабюджэтнае фінансаванне жылля. Каб людзі мелі магчымасць будаваць жыллё выключна за свае грошы, павінна добра ўзрасці іх заработная плата.

**— Што робіцца ўрадам краіны, на вашу думку, каб пазабюджэтнае фінансаванне будаўніцтва жылля атрымала сапраўднае развіццё?**

— Каб людзі пачалі ўкладваць свае грошы ў будаўніцтва жылля, іх трэба матэрыяльна ў гэтым зацікавіць. Неабходна зрабіць так, каб грошы, якія ўкладзены ў будаўніцтва жылля, прыносілі ўкладчыкам рэальныя дывідэнды. Добрай падмогай у гэтым накірунку стаў Дэкрэт прэзідэнта краіны, які прадугледжвае адмену дэкларавання грашовых сродкаў пры заключэнні маёмасных здзелак, звязаных з будаўніцтвам, рэканструкцыяй або набыццём жылых памяшканняў для асабістага карыстання, а таксама пры ажыццяўленні банкамі аперацый па грашовых укладах фізічных асоб у беларускіх рублях і ў замежнай валюце. Гэта стварае нядрэнныя ўмовы для развіцця пазабюджэтнага фінансавання будаўніцтва жылля. Аднак наша дзяржава столькі разоў падманвала сваіх грамадзян, што ў людзей амаль не засталося веры. Для таго, каб насельніцтва паверыла дзяржаве і пачало ўкладваць грошы ў жыллё, трэба спачатку разлічыцца па старых даўгах. Мы спадзяёмся, што калі, згодна з дэкрэтам кіраўніка дзяржавы, пачнецца кампенсацыя абясцэненых укладаў, грамадзяне дастануць з панчох грошы і пачнуць укладваць іх у эканоміку краіны, і ў жыллёвае будаўніцтва — у першую чаргу.

**Сяргей КУРКАЧ.**

СІТУАЦЫЯ

# «ХАВАЙ ТАВАР!»

## *альбо Чаму многія гандляры адчуваюць сябе на рынку, як на «мінным полі»*

**За апошнія год-два гродзенскія ўлады паклапаціліся пра тое, каб неяк упарадкаваць вулічны гандаль: адчынілі шэраг міні-рынкаў. Здавалася б, выгадна ўсім. Пакупнікам не трэба марнаваць час на паездку ў іншы канец горада, можна атаварыцца ў сваім мікрараёне. Хоць самы элементарны сервіс (дах над галавой) ёсць у прадаўцоў. І, нарэшце, за права гандлю ў касу рынку паступаюць грошы, а адсюль і пэўная выгада для бюджэту. Лагічна?**

Аднак на практыцы наш чытач, які патэлефанаваў у гродзенскі карпункт «Звязды», ніякай логікі не бачыць: «Кожны раз плачу 40 тысяч рублёў, а спакойна гандляваць не даюць. Цэлы дзень у нервовым напружанні, быццам на мінным полі».

— Хто ж альбо што вам перашкаджае?

— Прыязджайце — убачыце.

Назаўтра мы сустракаемся з Віктарам Васільевічам на адным з міні-рынкаў абласнога цэнтра. Тут амаль штодня яго рабочае месца. Дакладней, жончына, бо гандлюе яна, а Віктар Васільевіч ажыццяўляе пастаўку тавару. Ён так званы «чаўнок». «Даўно ў бізнесе?» — цікаўлюся. «З паўгода. Даведаўся, што беларускіх пенсіянераў пускаюць у Літву без візы. Стаў з раніцы ля абменнага пункта, купіў сто долараў і паехаў у Друскенінкай.» Аказалася, што такіх пенсіянераў - «чаўнакоў» з Беларусі там дзесяткі. Едуць і аўтобусам, і, як мой субяседнік, уласным транспартам. Купляюць алей, маргарын «RAMA», каву, сокі, «кетчупы»... Аптовыя ларкі (тут танней, чым у звычайных крамах) працуюць з раніцы да позняга вечара. Іх гаспадары ледзь не б'юцца паміж сабой за кліентаў. Беларускага пенсіянера ветліва сустрэнуць, бясплатна адвязуць з таварам на вакзал.

Віктар Васільевіч бывае ў Друскенінкаі разы два на тыдзень. Купляе па 15—20 бутэлек алею, некалькі ўпаковак іншых прадуктаў. Асартымент складаецца з 4-5 відаў тавараў, яго агульны кошт такі, каб укласціся ў норму бяспошліннага ўвозу ў Беларусь. Тым не менш, на нашай мытні (літоўцаў хвалюе толькі, каб на іх тэрыторыю не завезлі больш за літр значна таннейшай чужой гарэлкі) можна панервавацца. «Навошта вам столькі для ўласнага карыстання?» — «Дык і дзецям жа трэба, сваякам». Вядома, усё тут зразумела, асабліва калі гэтага пенсіянера часта бачаць. Аднойчы нават давялося ехаць у іншы пункт пропуску.

Але асноўныя перажыванні, па словах Віктара Васільевіча, чакаюць у Гродне, на рынку. Зрэшты, мне гэта пакуль незразумела. Гляджу навокал — усё спакойна. Пакупнікі як звычайна абходзяць гандлёвыя рады, параўноўваюць цэны. І правільна робяць. Напрыклад, на гэтым рынку 100-грамовы пакецік кавы «Sido» каштаваў 30—32 тысячы рублёў, а на іншым у той жа дзень прасілі столькі ж, але за 80-грамовую ўпакоўку.

А вось з літровай бутэлькай алею такі «фокус» немагчымы. Адбываецца іншае. Яшчэ тыдзень таму гэты прадукт каштаваў 65 тысяч рублёў, а сёння, у сувязі з рыначным курсам валюты, — ужо 75 тысяч. Але ж у суседняй краме за такую ж бутэльку бяруць 92 тысячы рублёў. Зразумела, што большасць пакупнікоў пойдзе атаварвацца алеем (і не толькі ім) да жонкі Віктара Васільевіча і іншых індывідуалаў.

... Хвілін праз 40 пачынаецца тое, дзеля чаго, відаць, карэспандэнта і запрасілі на рынак.

— Хавай тавар! Ідзе!

— Хто?

— Міліцыя. Мусіць ён і ўчора быў.

Многія гандляры хутка, але без асаблівай мітусні (напэўна, прызвычаіліся) «маскіруюць» свой тавар. Хлопец у спартыўных штанах за лічаныя секунды вызваляе раскладны столік ад бутэлек з алеем, кетчупу, туалетнай паперы. Усё гэта — у каробку, а не пад столік. Сам хлопец кудысьці знікае, нешта паведамiўшы суседу, які хавае ў пакет вагі, але застаецца побач са сваімі яблыкамі. Некаторыя гандляры накрываюць тавар коўдрай ці чым-небудзь іншым. Пусцее прылавак у жонкі Віктара Васільевіча. Пры набліжэнні кантролю яна адыдзе з сумкай убок, і паспрабуй дакажы, што перад вамі не звычайная пакупніца.

Тым часам міліцыянер складае пратакол на жанчыну, якая гандлюе беляшамі і булкамі ў недазволеным месцы, ганяе іншых парушальнікаў, пасля чаго заходзіць непасрэдна на тэрыторыю рынку. Тут ён правярае дакументы адной гандляркі, і на гэтым візіт завяршаецца. Зразумела, у ахоўніка правапарадку шмат і іншых пытанняў.

Гандляр яблыкамі дастае з пакета вагі, але многія зноў узяцца за справу не спяшаюцца. Бо ёсць інфармацыя, што ў суседняй краме бачылі работнікаў санстанцыі. Трывалае чаканне доўжыцца яшчэ хвілін 20. Пакуль ціха, і тавар зноў дастаецца з сумак, каробак, знікаюць з прылаўкаў коўдры. Аднак расслабляцца нельга. Яшчэ не вечар, у любы момант трэба чакаць і праверкі сертыфікатаў якасці тавару, і, само сабой, падатковага інспектара.

Дарэчы, хаваюцца ад кантралюючых органаў не ўсе. Пацікавіўся ў адной прадаўшчыцы, ці ёй спакойна. Так, спакойна. Дзяўчына працуе па найму ў буйнога прадпрымальніка. У яго шмат такіх кропак, вялікі тавараабарот. Ёсць сертыфікаты якасці тавару, дазвол падатковай інспекцыі.

А вось Віктар Васільевіч, як і многія яго калегі з ліку «чаўнакоў», і іншыя дробныя камерсанты такога дазволу не маюць. Ім хочацца, каб хапіла той платы, якая ўносіцца ў касу рынку. Жаданне зразумелае. Аднак у любой дзяржаве існуюць пэўныя «правілы гульні», і, падабаюцца яны альбо не, іх трэба выконваць. У дадзеным выпадку неабходна загадзя заплаціць фіксаваны падатак за права гандлю. Па сённяшні дзень гэта пяць «мінімалак», а калі гандлюеш не поўны месяц, тыдзень альбо два, дык адпаведна і менш плаціш.

Задаў аднаму пенсіянеру-«чаўнаку» нетактоўнае пытанне наконт яго даходу. Кажа, што за вылікам усіх затрат у месяц атрымліваем 3-4 мільёны рублёў. А далей у кожнага ёсць выбар. Альбо атрымай дазвол у падатковай інспекцыі (тады можа быць горш з даходам, аднак лепей з нервовай сістэмай), альбо дрыжы з ранку да вечара ў чаканні кантролю. Штраф, дарэчы, можа скласці тыя ж пяць «мінімалак».

Віктар Васільевіч рызыкуе «пагарэць» і на іншым, нават калі ён усё, як трэба, аформіць у падатковай інспекцыі. «Дзе сертыфікат якасці на вашы сокі, алей?» — у поўнай адпаведнасці з існуючым заканадаўствам спытаюць яго работнікі санэпідслужбы. І ніякія довады, што на бутэльцы пазначаны вытворца, ёсць дата вырабу, што ніхто з пакупнікоў на якасць алею яшчэ не скардзіўся, тут не выратуюць. Тавар, а тым больш харчовы, павінен быць абавязкова правераны беларускімі спецыялістамі. Колькі ж каштуе гэтая праверка? У гарадскім цэнтры стандартызацыі і метралогіі зазначылі, што рэактывы вельмі дарагія, многія з іх набываюцца за мяжой. Даследаванні таго ж алею сёння каштуюць мільёны два рублёў як мінімум. Для вялікай партыі тавару, можа, і цярпіма. А як быць, калі чалавек і хацеў бы атрымаць сертыфікат якасці, але ў яго толькі 15—20 бутэлек? Законнае выйсце, напэўна, толькі адно — жыць на адну пенсію, не ездзіць у Друскенінкай і не гандляваць у Гродне літоўскім таварам. А калі ўсё ж гэтым заняўся — дык на свае страх і рызыку.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# УВАГУ КАНЦЭНТРУЕМ НА КУЛЬТУРЫ

**2 чэрвеня ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная маючым адбыцца 11 чэрвеня слуханням па пытанню «Дзяржаўная нацыянальная праграма «Культура» і ўдасканаленне заканадаўчай базы галіны ў Рэспубліцы Беларусь».**

Старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Уладзімір Плецюхоў адзначыў, што ў беларускай культуры ёсць шэраг праблем, і ўвогуле сітуацыя выглядае не такой аптымістычнай, як у гэтым пераканаены міністр культуры А. Сасноўскі. У галіне культуры за апошняе дзесяцігоддзе прынята толькі чатыры законы, у той час як у іншых галінах — дзесяткі. Да таго ж работнікі культуры і мастацтва ў краіне аказаліся найменш аплатнай катэгорыяй. У сувязі з гэтым трэба гаварыць аб змяненні формы дзяржаўнага кіравання сферай культуры, а сама культура павінна перабудаваць сваю інфраструктуру, эканамічныя і прававыя асновы свайго функцыянавання.

Вядомы драматург Аляксей Дудараў сказаў, што на цяперашні момант любая ўвага да дзеячаў культуры, якія часта аказваюцца незапатрабаванымі грамадствам, вельмі неабходная. Але яго непакоіць тое, што самі слуханні акажуцца малапрадуктыўнымі для культуры.

Між тым, тэма прэс-канферэнцыі выклікала цікавасць у прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі. Гучалі пытанні аб праблеме палітызацыі культуры, якая аб'ектыўна садзейнічае расколу ў грамадстве, аб магчымым негатыўным уплыве сённяшняй моўнай сітуацыі на нацыянальную культуру. Трэба спадзявацца, што парламенцкія слуханні прынясуць плён, нададуць значнасць культурнай праблематыцы.

**Таццяна АНТОНАВА.**

**У газеце «Звязда» ад 19 мая г. г. у сувязі з дапрацоўкай Закона аб ахове і зберажэнні культурна-гістарычнай спадчыны было апублікавана інтэрв'ю старшыні Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Дзмітрыя Бубноўскага. Д. С. Бубноўскі, як амаль адзіны распрацоўшчык закона 1992 г. і старшыня Камітэта па ахове культурна-гістарычнай спадчыны, вядома, імкнуўся паказаць беспадстаўнасць крытычных заўваг у адрас закона і камітэта з боку нейкіх «хадакоў». Як быццам усё у належным стане, Савет Еўропы высока ацаніў новы закон, па даручэнню ўрада вядзецца яго ўдасканаленне, а «хадакі» дарэмна муцяць ваду. У сувязі з гэтым неабходна зрабіць некалькі заўваг, бо праблема аховы помнікаў археалогіі на сёння сапраўды вельмі злабадзённая. Ахова практычна поўнасцю адсутнічае, знішчэнне помнікаў адбываецца беспакарана, а дапрацоўка новага закона па прапанове ўрада, па сутнасці, мае толькі касметычны характар, не прадугледжваючы істотнага паляпшэння аховы помнікаў.**

ПАЛЕМІКА

# Археолагі жадаюць удзельнічаць у ахове помнікаў

ПЕРШ ЗА ЎСЁ трэба асабліва падкрэсліць красамоўнае прызнанне Д. Бубноўскага, што закон 1992 г. «бясспрэчна, быў не зусім даведзены да ладу. А неабходнасць у яго дапрацоўцы існавала». Гэта значыць, што дэпутатам Вярхоўнага Савету XII склікання быў «падсунуты» «не даведзены да ладу», недабраякасны праект закона. А яны, не з'яўляючыся спецыялістамі па ахове помнікаў, даверыліся распрацоўшчыку Д. Бубноўскаму, які тады не папярэдзіў іх, што закон не «даведзены да ладу», былі ашуканы ім, і прынялі недабраякасны закон. Дык хто ж ашуквае вышэйшую заканадаўчую ўстанову — распрацоўшчык закона Д. Бубноўскі, ці яго крытыкі? У гэтым жа абзацы Д. Бубноўскі прызнае, што закон 1992 г. «...быў падрыхтаваны на прынцыпова новых канцэптуальных падыходах». Гэта горкая праўда. Папярэдняе заканадаўства (14. 07.1978), што распрацоўвалася на падставе рэкамендацый папярэдніх інструкцый, законаў і палажэнняў, і ўлічвала вопыт розных устаноў і арганізацый, набыты дзесяцігоддзямі практычнай работы, было беспадстаўна адкінута. Разам з дзесяцігоддзямі набытым вопытам. Новы закон 1992 г. атрымаўся значна горшым, чым закон 1978 г., а помнікі апынуліся безабароннымі.

Дарэмна цешыцца Д. Бубноўскі тым, што закон «высока ацэньваюць у Еўропе» і што ў Беларусі ёсць яго «гарачыя прыхільнікі». Можа, у Еўропе гэтым законам абмануты таксама, як дэпутаты Вярхоўнага Савета XII склікання? Бо ў еўрапейскіх дзяржавах, апрача законаў, існуюць нізавыя структуры па ахове помнікаў на месцах. У Беларусі іх няма, і яны нават не прадугледжаны законам 1992 г. У Беларусі існуе толькі цэнтральны апарат камітэта і па аднаму інспектару ў абласных цэнтрах. А гэтай структурай і такім штатам помнікі захаваць немагчыма. Адносна «гарачых прыхільнікаў» новага закона: не бачылі ніводнага. Затое, сустракаючыся на нарадах і сумесных абмеркаваннях з калегамі-археолагамі і супрацоўнікамі (штатнымі і грамадскімі) таварыства аховы помнікаў, заўсёды чулі, што закон 1992 г. значна горшы, чым закон 1978 г. А гэта ж выказваюцца спецыялісты, што дзесяцігоддзямі самаададана працуюць у галіне аховы помнікаў і маюць магчымасць параўноўваць новае са старым. Думаем, дарэмна спасылаецца Д. Бубноўскі на эканамічныя патрабаванні ўрада ўнесці змяненні ў заканадаўства. Помнікі гісторыі і культуры — набытак народа, і ахоўваць іх — абавязак дзяржавы. Зрабіць гэта можна і танней, і надзейней, чым спадзеючыся на інвестараў, тым больш замежных. Для гэтага трэба толькі прызнаць ахову помнікаў справай дзяржаўнай і ўсенароднай і ўключыць гэту функцыю ў абавязак дзяржаўных органаў кіравання (у раёне — раённага аддзела культуры, у вобласці — упраўлення культуры, на месцах — сельсаветаў). Так, як гэта было па закону 1978 г. І ўраду абыдзецца танней і будзе больш надзейна, чым спадзяванні на спонсараў і замежных інвестараў: нешта не чуваць, каб хоць якія сродкі, не гаворачы ўжо пра залатыя ручаі, ішлі з-за мяжы на ахову нашых помнікаў. Ды і сорамна сваю народную культурную і гістарычную спадчыну ахоўваць на чужыя грошы.

Шмат увагі ўдзяляе Д. Бубноўскі працэсу «дапрацоўкі» закона. Але і тут ён гаворыць не ўсю праўду. Вядома, пэўныя аспекты заканадаўства трэба ўзгадняць і ўдакладняць са спецыялістамі. І з пэўнымі структурамі такая работа, магчыма, была нават праведзена. Аднак — хто ж можа лепш ведаць стан спраў з помнікамі археалогіі? Вядома, археолагі. Яны тройчы (у 70-х гг. і ў 1984 г.) абследавалі ўсе археалагічныя помнікі рэспублікі, напісалі ўсе тэксты ў 7-томнае выданне «Збору помнікаў гісторыі і культуры» (па абласцях), 12-томную Энцыклапедыю Беларусі, у энцыклапедыю «Археалогія і нумізматыка Беларусі», склалі «Спіс помнікаў археалогіі Беларускай ССР», зацверджаны як дзяржаўны Саветам Міністраў БССР у 1988 г. Яны былі зацверджаны куратарамі па кожнаму раёну Беларусі, дапамагалі ў арганізацыі ўліку, аховы і прапаганды помнікаў археалогіі. Яны «абпоўзалі» — у балотах, лясах, палях — каля 3000 помнікаў нашай мінуўшчыны, правялі іх даследванні і на добрым навуковым узроўні напісалі дзесяткі манаграфій, тысячы спецыяльных і папулярных артыкулаў, чым зрабілі вялікі ўклад у вывучэнне гісторыі нашага народа. Яны ведаюць не толькі помнікі, але і стан іх аховы, прычыны знішчэння і гібелі. І вось веды гэтага высокакваліфікаванага і адзінага ў рэспубліцы навуковага калектыву чамусьці аказаліся непатрэбнымі Д. Бубноўскаму пры дапрацоўцы закона. Чаму? Ды таму, што археолагі Нацыянальнай акадэміі навук яшчэ пры распрацоўцы Д. Бубноўскім закона на «прынцыпова новых канцэптуальных падыходах» у 1991 г. бачылі шматлікія недарэчнасці ў ім і прагназіравалі немінучае пагаршэнне аховы помнікаў археалогіі і непазбежную іх масавую гібель, адкрыта гаварылі аб неабходнасці перапрацоўкі закона. І давалі шматлікія канкрэтныя прапановы. Таму і ў 1997 г. Д. Бубноўскі пастараўся абмінуць непрыемных апанентаў і нават не даслаў у Інстытут гісторыі, дзе працуюць археолагі, прапановы па дапрацоўцы закона. Не былі яны прысланы і пры паўторнай дапрацоўцы ў красавіку 1998 г. У выніку спецыялісты былі адхілены ад дапрацоўкі закона такім бюракратычным прыёмам. Вось тая праўда, якую замаўчаў у сваім інтэрв'ю Д. Бубноўскі.

Знаёмства з дапрацоўкамі абурыла калектыў. Дапрацоўкі не паляпшалі ахову помнікаў, а толькі на некалькі гадоў зноў зацвярджалі нягодную форму закона. На агульным сходзе ўсіх чатырох археалагічных аддзелаў і секцыі аховы помнікаў археалогіі была пастанова інфармаваць Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь аб неабходнасці прынцыповай перапрацоўкі закона 1992 г. Калектыўны зварот у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу быў падпісаны абсалютна ўсімі археолагамі Інстытута гісторыі, археолагамі Мінскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, Магілёўскага педагагічнага універсітэта (30 подпісаў). Так з'явіліся, па зняважліваму выразу Д. Бубноўскага «хадакі». Гэта не «група вучоных», як піша Д. Бубноўскі, а ўвесь калектыў, які бачыць цяжкія наступствы закона 1992 г. і яго поўную непрыгоднасць для аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Як ацэньваць дзейнасць вучоных? Адказны за справу чалавек падзякаваў бы за абгрунтаваную крытыку, якая спрыяла б паляпшэнню аховы помнікаў. Думаю, што станоўча маглі б ацаніць і кваліфікаваныя заўвагі вучоных і зацікаўленыя арганізацыі. Па іншаму ацаніў іх Д. Бубноўскі. Вядома, яны парушылі спакойны ход дапрацоўкі закона, як таго хочацца Д. Бубноўскаму. Але вучоныя палічылі лёс помнікаў гісторыі і культуры нашага народа больш важным, чым спакойнае жыццё стваральнікаў гэтага закона.

А зараз адносна «поўнага і грунтоўнага аналізу ўсіх заўваг...» Навукоўцы патрабуюць не «даследавання ўсякай зямельнай пляцоўкі перад яе адводам пад будаўніцтва». Вучоныя прапануюць абследаванне будаўнічых зон. Даследаванне і абследаванне — вялікая розніца. Няўжо яе не ведае Д. Бубноўскі? Дрэнна, калі не ведае. І яшчэ горш, калі ведае і скажае пазіцыю вучоных. Гэта ўжо будзе свядомы зман соцень тысяч чытачоў. Не ведае Д. Бубноўскі і магчымасці 30 археолагаў-прафесіяналаў, нават не пацікавіўся імі. А сам адзін вырашае, што яны не ў стане забяспечыць абследаванне (не даследаванне). І яно з'яўляецца не «раскошай», а неабходнасцю. Гэтак жа як і даследаванне культурнага пласта ў выпадку яго выяўлення. І Камітэт па ахове культурна-гістарычнай спадчыны па прамому свайму функцыянальнаму прызначэнню абавязаны забяспечыць і абследаванне, і даследаванне і не дапусціць знішчэння недаследаваных помнікаў. Калі толькі гэта сапраўды Камітэт па ахове спадчыны.

Навукоўцы і грамадскасць у першую чаргу клапоцяцца аб ахове помнікаў гісторыі і культуры, а не аб спакойным існаванні асобных кіраўнікоў. Кіраўнікі ж павінны быць вышэй за асабістыя эмоцыі і кіравацца інтарэсамі справы, а не амбіцыямі і крыўдамі. Калі яны сапраўды зацікаўленыя ў інтарэсах справы.

**П. ЛЫСЕНКА,**
**член Прэзідыума Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, старшыня секцыі археалогіі, доктар гістарычных навук, прафесар.**

**А. КАЛЕЧЫЦ,**
**каардынатар археалагічных аддзелаў Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук.**

**М. ЧАРНЯЎСКІ,**
**загадчык аддзела першабытнай археалогіі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдат гістарычных навук.**

**В. ШАДЫРА,**
**загадчык аддзела жалезнага веку Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдат гістарычных навук.**

**Г. ШТЫХАЎ,**
**загадчык аддзела археалогіі Полацкай зямлі Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар.**

**А. МЯДЗВЕДЗЕЎ,**
**намеснік Старшыні Палявога камітэта Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдат гістарычных навук.**

# Гары Паганяйла пазбаўлены адвакацкай ліцэнзіі

**Адзін з вядомых беларускіх адвакатаў, Гары Паганяйла, 2 чэрвеня на пасяджэнні кваліфікацыйнай камісіі ў Мінюсце быў пазбаўлены ліцэнзіі на права займацца адвакацкай дзейнасцю на тэрыторыі Беларусі. Падставай для такога рашэння быў пераход Гары Паганяйла з беларускай у расійскую калегію адвакатаў, які ён ажыццявіў пасля некалькіх папярэджанняў з беларускага Мінюста за ягоныя публічныя выказванні па сутнасці спраў, у якіх ён прымаў удзел, і іншае.**

Намеснік міністра юстыцыі Віктар Галаванаў, які кіраваў пасяджэннем кваліфікацыйнай камісіі, назваў некалькі прычын такога яе рашэння:

— Па-першае, ажыццяўленне ім прафесійнай праваабарончай дзейнасці па-за рамкамі калегіі адвакатаў, бо ў адпаведнасці з дэкрэтам прэзідэнта адвакацкая дзейнасць у нас ажыццяўляецца толькі тымі, хто ўваходзіць у абласныя і Мінскую гарадскую калегіі адвакатаў. Па-другое, Г. Паганяйла арганізаваў у нас прадстаўніцтва адной з адвакацкіх кантор РФ без дазволу Мінскай гарадской калегіі адвакатаў і Міністэрства знешнеэканамічных сувязяў. І па-трэцяе, ён не плаціў падаткі...

Па версіі самога Гары Паганяйла, ён пазбаўлены ліцэнзіі за тое, што ўзяўся за справу лідэра «Маладога фронту» Паўла Севярынца, не ўваходзячы пры гэтым у беларускую калегію адвакатаў, чым быццам бы парушыў нацыянальнае заканадаўства.

— Аднак у нас дзейнічае Канвенцыя краін СНД аб прававой дапамозе па крымінальных, грамадзянскіх і адміністрацыйных справах, і яна дае права грамадзянам звяртацца па юрыдычную дапамогу да любога адваката з Украіны, Расіі ці Грузіі. Акрамя таго, Статут Саюза Беларусі і Расіі дазваляе свабодны рух рабочай сілы, таму я меў права працаўладкавацца ў РФ. Але ж мае довады былі проста праігнараваны,— зазначыў Г. Паганяйла ў размове з карэспандэнтам «Звязды». — Закон аб адвакатуры і дэкрэт прэзідэнта датычаць толькі арганізацыйных прынцыпаў адвакацкай дзейнасці. Крымінальна-працэсуальны, Гаспадарчы і Адміністрацыйны кодэксы не ўтрымліваюць ніякіх абмежаванняў для грамадзян у іх праве выбару абаронцаў і сваіх прадстаўнікоў. Я думаю, што тут я не дапусціў ніякага парушэння закона, таму буду дабівацца адмены гэтага рашэння як такога, што дыскрэдытуе мяне.

Аднак В. Галаванаў лічыць, што, як расійскі адвакат, Г. Паганяйла працаваць на нашай тэрыторыі не мае права.

— У нас такі дагавор, які дазваляе ў нас працу замежных адвакатаў, заключаны толькі з Літвой, а вось з Расіяй такога дагавора няма. Прычым намеснік міністра юстыцыі Расійскай Федэрацыі Сідараў падкрэсліў мне, што і беларускія адвакаты ў суды РФ таксама не дапускаюцца, — паведаміў В. Галаванаў.

Канвенцыя СНД аб прававой дапамозе і Статут Саюза Беларусі і Расіі, на яго думку, таксама такіх магчымасцяў не даюць.

У сувязі з гэтым выклікае цікавасць лёс абароны вядомых кліентаў Паганяйлы — Вінікавай і Саманкова. Сам Гары Пятровіч рашуча заяўляе, што ён працаваў у Беларусі, законна працуе і будзе працаваць. Прычым для гэтага яму, як расійскаму адвакату, нават не патрэбна беларуская ліцэнзія.

— Паганяйла сам вырашыў свой лёс, напісаўшы заяву аб выхадзе з Мінскай гарадской калегіі адвакатаў, не падумаўшы ні аб Віннікавай, ні аб Шарамеце. Разумеючы, што справа Шарамета набыла палітычную афарбоўку, мы прыпынілі рашэнне калегіі адвакатаў Мінска аб яго выключэнні і папрасілі, каб ён давёў справу Шарамета да канца. Цяпер яна прайшла ўсе інстанцыі і ўступіла ў законную сілу, таму мы адмянілі свой ранейшы загад. Зараз гэта яго ўласная справа, як быць з ранейшымі кліентамі, я думаю, што ён не зможа працаваць з Віннікавай і іншымі сваімі давярыцелямі ў Беларусі, — зазначыў В. Галаванаў.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# СТАЛІЧНЫ ЎЗРОВЕНЬ РЭГІЯНАЛЬНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

**Супрацоўніцтва трох сталічных абласцей — Мінскай, Маскоўскай і Кіеўскай стала добрай прыметай інтэграцыі славянскіх народаў. Гэтыя вбласці рэгулярна праводзяць выстаўкі-кірмашы, якія надаюць магутны імпульс умацаванню гаспадарчых сувязяў. З дня першай Мыцішчынскай выстаўкі-кірмашу значна вырас тавараабарот паміж абласцямі, аднаўлены былыя і з'явіліся новыя партнёрскія кантакты.**

Летась пастаўкі прадпрыемстваў Падмаскоўя ў Мінскую вобласць істотна павялічыліся. Нас у першую чаргу цікавіла прамысловае абсталяванне (рухавікі, грузавыя аўтамабілі і запчасткі да іх, аптычныя прыборы), вырабы з палімерных матэрыялаў, шкло і вырабы з яго. Значна ўзраслі пастаўкі ў Падмаскоўе беларускіх харчовых тавараў (масла, рыбы, сыроў, мяса), лекавых сродкаў, адзення, трыкатажных вырабаў, мэблі.

Асаблівы плён шматбаковаму супрацоўніцтву надаюць прамыя сувязі паміж гарадамі і раёнамі дзвюх абласцей: Каломнай і Маладзечнам, Серпухавым і Слуцкам, Мыцішчамі і Жодзіна, раёнамі Дзімітраўскім і Пухавіцкім, Нагінскім і Барысаўскім. Так, Мыцішчынскі і Смалявіцкі раёны заключылі пагадненні на пастаўку прадукцыі сваіх прадпрыемстваў, правялі семінары па перадачы вопыту прыватызацыі і кіравання муніцыпальнай маёмасцю, наладзілі сувязі паміж тэхнічным ліцэем з Мыцішчаў і цэнтрам прафадукацыі Жодзіна, выпускаюцца сумесныя нумары газет «Родники» і «Жодзінскія навіны».

Пётр Пётух, старшыня Мінскага аблвыканкама, кіраўнік афіцыйнай дэлегацыі Мінскай вобласці на нядаўнім кірмашы ў Мыцішчах дзеліцца ўражаннямі:

— Карысць такіх сустрэч відавочная. Не толькі ў эканамічным плане, што само па сабе з'яўляецца галоўнай мэтай такіх выставак-кірмашоў, але і ў душэўных чалавечых зносінах. Як бы там ні было, а мы ж засумавалі адзін па аднаму за гады развалу СССР. І мае рацыю мой маскоўскі калега, губернатар Анатоль Цяжлоў: нам не жыць адзін без аднаго. А якой шчырай радасцю свяціліся вочы гледачоў, з якім захапленнем яны прымалі наш цудоўны ансамбль «Бараўлянскі гармонік»! Сэрцы ў нас адкрытыя адзін аднаму, — гаворыць Пётух.

Гэта, дарэчы, адчувалі і іншыя члены дэлегацыі Мінскай вобласці. Нас усіх радавала тое, што наведвальнікі з цікавасцю знаёміліся з прадукцыяй Міншчыны. Прадукцыя высокай якасці, сучасная ўпакоўка. Нездарма растуць яе пастаўкі ў расійскія рэгіёны. Не ўступаючы па спажывецкіх якасцях імпартнай, а часам і пераўзыходзячы яе, нашы прадукты харчавання карыстаюцца ўсё большай папулярнасцю ў пакупнікоў Расіі. А расшырэнню гэтага экспарту садзейнічалі якраз выстаўкі-кірмашы.

Мікалай Пацкевіч, намеснік старшыні сталічнага гарвыканкама, паведамляе, што давялося тэрмінова заказаць дадатковую машыну скургалантарэйных вырабаў фірмы «Галатэя». Бо пакупнікі ўсе тавары адразу раскупілі.

Высока ацанілі наведвальнікі марку салігорскага і жодзінскага трыкатажу, барысаўскай фірмы «Канстанта». Прыцягвалі ўвагу стэнды мінскіх аб'яднанняў «Крышталь», мяса-малочнай прамысловасці, Барысаўскага хрустальнага завода. Ну і, натуральна, прадукцыя БелАЗа, МАЗа, МТЗ карысталася асаблівай папулярнасцю.

Гасцінныя гаспадары арганізавалі паездку беларускай дэлегацыі ў былы цяплічны саўгас-камбінат, а цяпер акцыянернае таварыства «Марфіна», якое знаходзіцца ў Маскве, непадалёку ад Астанкінскага тэлецэнтра. Гэта 12-гектарны агарод пад дахам. Менавіта тут беларусы некалі ўбачылі ў дзеянні высокаэфектыўную тэхналогію вырошчвання памідораў і агуркоў на гідрапоніцы. Нашы спецыялісты асвоілі лепшыя яе прыёмы і цяпер атрымліваюць ураджаі нават вышэйшыя, чым у «Марфіна». Але генеральны дырэктар Уладзімір Паўлаў і на гэты рэз не хаваў сваіх вытворчых сакрэтаў, ахвотна паказаў сваю гаспадарку, запрасіў да супрацоўніцтва.

Сапраўды, беларусам і расіянам ёсць чаму вучыцца адзін у аднаго. Раней усе мы ведалі, што савецкія тралейбусы робяць у горадзе Энгельсе. Многія расіяне і не падазравалі, што ў Мінску з'явіўся дастойны канкурэнт у асобе завода «Белкамунмаш». На мінулай выстаўцы ў Мыцішчах яго машыны выклікалі фурор: сучасны дызайн, умяшчальныя, а галоўнае — эканамічныя. Тут жа і прадалі 32 тралейбусы. Цяпер заказаў з Масквы і іншых гарадоў у прадпрыемства — на паўгода наперад.

— Мы з асаблівым задавальненнем пераканаліся, што цяперашняя Мыцішчынская выстаўка-кірмаш для нашай сталічнай вобласці праводзіцца на фоне відавочнага і ўстойлівага росту валавога прадукту ў рэгіёне, — сказаў у гутарцы начальнік дэпартамента нацыянальнай і рэгіянальнай палітыкі адміністрацыі Маскоўскай вобласці Аляксандр Кузняцоў. — Наша экспазіцыя тавараў і паслуг садзейнічала не толькі заключэнню чарговых двухбаковых выгадных кантрактаў і дагавораў, але і дала таваравытворцам рэальную магчымасць вывучыць прадстаўленыя на ёй навейшыя тэхналогіі, эфектыўныя і часам неардынарныя падыходы да самой вытворчасці ва ўмовах станаўлення рынку і яго міжнароднай інтэграцыі.

Упершыню за ўвесь час правядзення выставак-кірмашоў цікавасць да іх праявіла Прыбалтыка. Чым гэта абумоўлена? Прыбалты пасля выхаду з саставу СССР кінуліся асвойваць заходнія рынкі. Але аказалася, што іх прадукцыя не знаходзіць у Еўропе адпаведнага попыту. Адсюль у прыбалтаў зацікаўленасць у супрацоўніцтве з Расіяй, Беларуссю і Украінай.

Чарговая, чацвёртая па ліку, выстаўка-кірмаш у Мыцішчах з'явілася чарговым крокам на шляху далейшай узаемнай інтэграцыі і актывізацыі эканамічнага супрацоўніцтва, стварэння сумесных кааператыўных вытворчасцяў, фінансава-прамысловых кансорцыумаў, гандлёвых дамоў і да т. п.

**Мікалай ШЛОМА.**

Крымінал

# ПРАДПРЫМАЛЬНІЦУ ПУЖАЛІ ПРАСАМ

**У Гомелі адной з прыватных прадпрымальніц прыйшлося на сваёй скуры зведаць жудасныя сцэны, якія часам пракручваюць у рознага роду баевіках.**

Трое злачынцаў, якія ўварваліся раніцай у яе кватэру, звязалі жанчыну і яе брата, а пасля, уключыўшы ў разетку прас, наблізіліся з ім да сваіх ахвяр. Для большай важкасці аргументаў адзін са злыдняў дастаў нож. Зразумела, патрабавалі рабаўнікі грошай. Прыйшлося аддаць. Невядомыя пакінулі кватэру, прыхапіўшы з сабой 1100 долараў ЗША, 9 мільёнаў рублёў і відэамагнітафон. Зараз іх пошук вядзецца міліцыяй.

**Ігар ГРЫШЫН.**

Гаворка пойдзе пра невядомы факт у смаленскім перыядзе біяграфіі Радзівона Шукевіча-Траццякова — першага рэдактара газеты «Красноармейская правда». Многім беларускім даследчыкам, маім калегам, Р. Шукевіч-Траццякоў больш вядомы як рэдактар самай папулярнай у БССР у 20-я гады сялянскай газеты «Беларуская вёска», ці «Б.В.», як любілі гаварыць у сценах рэдакцыі яе супрацоўнікі Кузьма Чорны, А. Матусевіч, І. Савіч, П. Рагачэўскі і іншыя.

Вядомы Р. Шукевіч-Траццякоў і як партыйны, савецкі дзеяч, нарэшце, навуковы супрацоўнік і арганізатар шахматнага руху ў рэспубліцы. У сярэдзіне 30-х гадоў Р. Шукевіч-Траццякоў не пазбегнуў малоха рэпрэсій, быў арыштаваны, неабгрунтавана абвінавачаны ў контррэвалюцыі і незаконна асуджаны.

Р. Шукевіча-Траццякова і яго імя напаткаў лёс многіх ахвяр таталітарнай дзяржавы, памяць аб якіх была амаль знішчана.

# НЕВЯДОМЫ АРЫШТ

## Радзівона Шукевіча-Траццякова

Я СВЯДОМА абмежаваў сябе толькі архіўнымі матэрыяламі, знойдзенымі мной у Смаленску, з тым, каб, па-першае, запоўніць прабел у звестках пра Р. Шукевіча-Траццякова, цікавага і безумоўна таленавітага чалавека, і, па-другое, каб паказаць, як радавыя, з сённяшняга пункту погляду, твор, з'ява маглі паўплываць на далейшы лёс канкрэтнай чалавечай асобы.

Такім чынам: Смаленск, 1921 год, другая палова лета.

30 ліпеня на 4-й старонцы рэдагуемай Р. Шукевічам-Траццяковым «Красноармейской правды» (№ 34), у рубрыцы «Красноармейское творчество» з'яўляецца верш, які складаецца з 16 радкоў, не разбіты на страфы і не мае назвы. Верш цікавы, наогул, небездапаможны, у нейкай меры нават дасканалы. І гэта яшчэ не ўся ацэнка верша. Галоўнае — ён змяшчаў у тэксце адну тайну, якая шмат гаворыць пра аўтара твора. Не ведаю нават ці варта, ці правільна пра такія сур'ёзныя рэчы гаварыць у жартаўлівым тоне, акцэнтуючы ўсю ўвагу на змесце і форме верша.

*Дома, все фабрики, заводы*
*Объемлет пламень трудовой,*
*Людей потоки-скороходы*
*Осветит всполох заревой.*
*И будет молот бить удары,*
*Как песни свежих братских сил,*
*Огонь сожмет стальные свары,*
*Меха раздуют страсть горнил.*
*Машин колеса метким взмахом*
*Укажут даль блестящих рельс,*
*Над отвердевшим старым прахом*
*Из тучных зыбей встанет лес.*
*Сверлит резец изгибы стали,*
*Текут приводные ремни,*
*Огонь бурлит, мы не устали,*
*Взвихрим трудом мы наши дни.*

Гэта пафасна-велічны твор быў напісаны акравершам і змяшчаў у сабе заклік «Долой коммунистов».

Аўтарства верша ўстаноўлена не было. У газеце ён быў падпісаны псеўданімам «А. Ігнатовіч». Захаваўся ў архіве і аўтарскі рукапісны арыгінал верша.

Літаратуру сапраўдную ў той час любілі, у тым ліку і выдаўцы. Асабліва захапляліся паэзіяй: яе друкавалі, чыталі, вывучалі, пра вершы спрачаліся.

Схамянуліся таму ў гэты ж дзень. Праз некалькі гадзін пасля выхаду газеты з друку яе рэдактар Р. Шукевіч-Траццякоў піша ў Асобы аддзел Заходняга фронту запіску наступнага зместу:

*«30 ліпеня 1921 г. У Асобы Аддзел Захфронту.*

*У сённяшнім № «Кр. Правды» мной змешчаны прыкладаемы верш Ігнатовіча, першыя літары якога (чытаючы зверху ўніз) гавораць: «Долой коммунистов». На жаль, гэта заўважана мной занадта позна. Прашу правесці расследаванне, ці ёсць у роце бронезапа Ігнатовіч (а калі ёсць, дык мець яго на ўвазе {}). Калі ж тако няма, дык я прыпісваю аўтарства ліська добраму паэту-анархісту Тарарыну. Верш занесены ў рэдакцыю ў час маёй адсутнасці і пакінуты на стале ў сакратара. Шукевіч-Траццякоў».*

А праз чацвёра сутак, 3 жніўня, Р. Шукевіч-Траццякоў быў выкліканы ў Сакрэтнае аддзяленне Смаленскай губернскай надзвычайнай камісіі, дзе дапытваўся ў якасці абвінавачваемага. Захаваўся пратакол допыту Р. Шукевіча-Траццякова ад 3 жніўня 1921 г. У ім, акрамя цікавых біяграфічных звестак, напрыклад, аб прыцягненні да следства ў верасні 1919 г. Смалгубрэўтрыбуналам «па справе аб нявывазе пры эвакуацыі спраў Слуцкага аддзела юстыцыі» (Р. Шукевіч-Траццякоў у ліпені-жніўні 1919 г. быў старшынёй беларускіх народных суддзяў Слуцкага павета), ёсць і тлумачэнні рэдактара ў сувязі з апублікаваннем верша Ігнатовіча. Дадам яшчэ адну істотную і важную дэталь — афіцыйная назва займаемай пасады Р. Шукевічам-Траццяковым у Палітычным упраўленні Заходняга фронту (ПУЗАПе) — рэдактар газеты «Красноармейская правда» і ваенны цэнзар друку (!). Р. Шукевіч-Траццякоў расказаў следчаму Малянкову (?):

*«<...> На мне ляжыць адказнасць за змест гэтай газеты, таму ўвесь паступаючы матэрыял у рэдакцыю я праглядаю і што знаходжу магчымым дапускаю ў друк. Верш змешчаны ў названай газеце № 34 у аддзеле «Чырвонаармейская творчасць» быў пакладзены на мой стол ці стол сакратара ў маю адсутнасць. Я, знайшоўшы яго, прачытаў, не звярнуўшы ўвагі на вялікія літары і, вызначыўшы яго мастацкім і пралетарскім, аддаў у друк. Акрамя мяне яго праглядаў таксама загадчык мастацкімі паэзіямі тав. Грышын і адобрыў. Подпіс на ім быў А. Ігнатовіч, чырвонаармеец 2-га бронеатрада. Цяпер арыгінал знаходзіцца ў Асобым аддзеле Захфронту, дзе вядзецца расследаванне. Пасля выхаду газеты да мяне з'явіўся курсант пралеткульта Лізараў і заявіў, што з вялікіх літар гэтага верша атрымліваецца контррэвалюцыйны лозунг. Я адразу ж знайшоў арыгінал і накіраваў у асобы аддзел. <...>.»*




Асобы аддзел Захфронту неадкладна прымае меры па выяўленню, канфіскацыі і знішчэнню № 34 «Красноармейской правды» з крамольным антыкамуністычным вершам. Пісьмовае цыркулярнае ўказанне на гэты конт было разаслана 5 жніўня.

І вось ужо ў зваротным накірунку пачынаюць паступаць зводкі і даклады, данясенні і справаздачы аб выкананні распараджэння па пошуку № 34 газеты «Красноармейская правда».

І тут самы час вярнуцца да вобраза і загадкі невядомага паэта Ігнатовіча. Ён, вядома ж, як вы здагадваецеся, не служыў у 2-м бронеатрадзе. Сапраўднае яго прозвішча невядома, і асоба, аб чым мы, як даследчыкі, можам шкадаваць, не ўстаноўлена. Менавіта таму я гавару пра вобраз паэта, а не пра канкрэтнага чалавека.

На мой погляд, гэта — найцікавейшы прыклад антыкамуністычнага супраціўлення моцнай і валявой асобы, таленавітага чалавека, свабодалюбівага, які аберагае, па прычыне рэальных магчымасцяў і ўласнага характару, творчасць ад бруднага ўмяшання цэнзараў. Ігнатовіч — гэта змагар. Але так складваюцца абставіны, што ён не можа падзяліцца патаемным са сваім акружэннем, не можа даверыцца нават сябрам.

Цяпер нагадаю, а гэта важна, што верш за подпісам Ігнатовіча быў апублікаваны ў № 34 «Красноармейской правды».

Роўна праз 34 нумары, у № 68 (проста містыка нейкая), 9 верасня, на старонцы другой з'яўляецца верш «Наши лозунги».

*Бей, товарищ, тревогу,*
*Если враг у границы!*
*Истине шире дорогу —*
*Жизни свободной*
*зарнице!*
*Искрами черных заводов*
*Дней наших темень*
*изгложем!*
*Осенью этого года*
*Волге и Каме поможем!*

Так, гэта таксама акраверш, які ўтварае фразу, няхай даруюць мне чытачы, — «Бей жидов».

И хоць гэты верш напісаны чатырма страфамі па два радкі, стыль і ўзвышана-патэтычная накіраванасць яго наводзяць на думку аб аўтарстве Ігнатовіча (г. зн. аўтарстве аднаго чалавека). Нягледзячы нават на тое, што падпісаны другі верш псеўданімам «А. Канашкін».

Дзеянні чэкістаў і на гэты раз носяць, у асноўным, сілавы характар. Зноў рассылаюцца цыркулярныя ўказанні:

*«Тэрмінова. Заданне № 137. 5 агентурнаму аддзяленню. Тэрмінова канфіскаваць з усіх бібліятэк, чытальняў газету «Красноармейская правда» № 68 ад 9 гэтага верасня. І сарваць вышэйуказаны нумар газеты, расклееныя на сценах і агароджах г. Смаленска, у якой на другой старонцы змешчаны верш «Наши лозунги». Чытаць зверху ўніз, вялікія літары, атрымліваецца «Бей жидов».*

*Упаўнаваж. 4 аддз. Крамской».*

Заўважыў пракол у сваёй рабоце і Р. Шукевіч-Траццякоў, які ў гэты ж дзень піша заяву ў Асобы аддзел Заходняга фронту:

*«9 верасня 1921 г. У Асоб. аддз. З. Фр.*

*У нумары 68 «Кр. Пр», які выйшаў сёння, прайшоў верш «Наши лозунги», які дае «акраверш» «бей жидов» (арыгінал прыкладаецца). Прапушчаны ён быў мной таму, што я не даглядзеў, а не па контррэвалюцыі. Надзвычайная перагружанасць работай, адсутнасць належнага набору (?) супрацоўнікаў, узмоцненая падрыхтоўчая работа ў прэзідыуме ячэйкі па падрыхтоўцы да перарэгістрацыі, — вось асноўныя прычыны, што не дазволілі належным чынам унікаць у атрымліваемы рэдакцыяй матэрыял. Шукевіч-Траццякоў».*

Р. Шукевіч-Траццякоў яшчэ не ведае, што ўжо прынята рашэнне аб яго арышце, якое выкладзена літаральна ў адной фразе нейкага ўплывовага смаленскага чыноўніка, відаць, начальніка Палітычнага ўпраўлення Заходняга фронту, пакінутае прама на свежым нумары «Красноармейской правды»:

*«Т. Гораў*

*арыштуйце адказнага рэдактара і завядзіце справу за ранейшае і цяперашняе ўпушчэнне*

*9/9. 21 (подпіс неразборлівы. — **М.І.**).*

Заднім чыслам, за 8 жніўня, узбуджаецца крымінальная справа «№ 4847 па абвінавачванню рэдактара газеты «Красноармейская правда» Шукевіча-Траццякова Радзівона Канстанцінавіча ва ўпушчэнні па пасадзе і высвятленні аўтараў кр. (контррэвалюцыйных. — **М.І**.) вершаў, надрукаваных у «Красноармейской правде» № 34 і № 68".

9 верасня 1921 года, у дзень выхаду газеты № 68, намеснік начальніка Асобага аддзела Заходняга фронту падпісаў ордэр № 316 на арышт Р. Шукевіча-Траццякова і вобыск у яго кватэры па вуліцы Нікольскай у Смаленску. Арышт і вобыск даручалася зрабіць супрацоўніку Асобага аддзела Заходняга фронту Бауману. Але чэкістаў апярэдзіў начальнік Палітычнага ўпраўлення фронту Новікаў. Захаваўся дакумент, падпісаны трыма мужамі — начальнікам Адміністрацыйна-забеспячэнскага аддзела Палітычнага ўпраўлення фронту, начальнікам канцылярыі і старшым справаводам, у якім паведамляецца пра арышт.

Дастаўлены ў Асобы аддзел Заходняга фронту, Р. Шукевіч-Траццякоў дапытваецца ў якасці абвінавачваемага дзяжурным памочнікам Упаўнаважанага Асобага аддзела Капылоўскай, якой расказвае:

*«... Уся паступаючая карэспандэнцыя ўскрываецца ці мной, ці сакратаром, і праглядаецца. Прагледжаны матэрыял раніцай у 10 гадзін здаецца ў друкарню ў набор. Гэты верш «Наши лозунги» праглядаўся мной. Верш, які звярнуў на сябе ўвагу ў першы раз, «Долой коммунистов» быў прагледжаны загадчыкам аддзела паэзіі т. Грышыным. Тлумачу магчымасць падобных фактаў выключна перагружанасцю работай. Нічога наўмыснага з майго боку, безумоўна, няма...»*

Пасля допыту арыштаванага Капылоўскай была вынесена пастанова аб прад'яўленні «гр. Шукевічу-Траццякову абвінавачання ў дапушчэнні контррэвалюцыйнага верша ў газеце «Красноармейская правда» ў другі раз і выбранні «меры спынення спосабаў ухіліцца ад следства і суда» «утрыманне пад вартай Гарнізоннай гаўптвахты па 1 катэгорыі».

Аднак зусім не так паводзілі сябе сябры і калегі Р. Шукевіча-Траццякова. Ужо праз двое сутак пасля арышту рэдактара «Красноармейской правды» камуністычная ячэйка Палітычнага ўпраўлення Заходняга фронту пісьмова хадайнічае перад Асобым аддзелам фронту аб вызваленні іх калегі з-пад арышту.

І адбыўся цуд — на наступны дзень рэдактар «Красноармейской правды» быў вызвалены, аб чым таксама была вынесена адпаведная пастанова. У ёй гаварылася, што «гр. Радзівон Канстанцінавіч Шукевіч-Траццякоў з-пад варты вызваляецца пад паручыцельства Кам'ячэйкі Палітукрзапа ад 11 верасня... справа ж следствам працягваецца...»

Вышэй я назваў нечаканае вызваленне з-пад арышту цудам. Канешне, мае словы — яўная нацяжка. Ніякага цуду тут няма: асобыя аддзелы ВЧК і палітычныя ўпраўленні дзейнічалі поруч, зладжана, разам арыштоўвалі, разам каралі, некага выпускалі. У сваёй карнай рабоце яны выдатна і ўдала дапаўнялі адзін аднаго, пастаянна абменьваліся кадрамі, інфармацыяй, увесь час знаходзячы нейкі баланс, быццам дзейнічаючы па закону сазлучаных сасудаў. Таму ўсё адбылося, вядома ж, заканамерна, а для Р. Шукевіча-Траццякова — на гэты раз больш-менш удала: 13 верасня ён быў адпушчаны, а адабраныя пры арышце рэчы рэдактара былі яму вернуты пад распіску.

Але шчасце ўсміхнулася толькі Р. Шукевічу-Траццякову: справа ў тым, што ў гэтай гісторыі быў яшчэ адзін персанаж.

Смаленскія чэкісты па-ранейшаму настойліва, мэтанакіравана і паслядоўна працягвалі шукаць аўтараў апублікаваных антыкамуністычных вершаў.

У студзені 1922 г. пры паўдобраахвотным пасрэдніцтве аднаго мясцовага паэта, назавем яго Н., была праведзена літаратуразнаўчая экспертыза вершаў, апублікаваных у 1921 г. у мясцовай прэсе, у выніку чаго падазрэнне ў адносінах да антыбальшавіцкіх вершаў пала на маладога смаленскага паэта Фёдара Лабачова, студэнта Смаленскага універсітэта. Яго вершы, на думку літаратурнага эксперта Н., былі падобныя па літаратурнаму прыёму, энтузіязму, стылю выразаў і вобразнасці да вершаў Ігнатовіча і Канашкіна.

13 лютага 1922 г. Ф. Лабачоў, які, відаць, наогул не быў знаёмы з Р. Шукевічам-Траццяковым, арыштоўваецца і змяшчаецца пад варту ў каравульнае памяшканне пры камендатуры Асобага аддзела Заходняга фронту, дзе і знаходзіцца пад арыштам 11 сутак. 24 лютага ён быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе са Смаленска.

Пакуль Ф. Лабачоў знаходзіўся пад арыштам, смаленскія чэкісты праз сваю агентуру, блізкую да маладога паэта, выкралі рукапісы яго вершаў, сшыткі з рознымі запісамі і частку асабістага архіва. Усё гэта, як ні дзіўна, захавалася і далучана да матэрыялаў крымінальнай справы.

А вытворчасць па ёй была спынена толькі ў канцы чэрвеня 1922 года — амаль праз год пасля апублікаванага верша А. Ігнатовіча.

У спецыяльна вынесенай з гэтай нагоды пастанове гаварылася:

*«... **прымаючы пад увагу***

*1) што рэдактар «Красноармейской правды» гр. Шукевіч-Траццякоў, член РКП(б), на допыце заявіў, што друкаванне гэтых вершаў адбылося ў выніку перагружанасці яго работай, і ён арганічна не мог дэталёва прагледзець гэтыя вершы;*

*2) што датычыцца яго палітычнай надзейнасці за яго паручыўся Прэзідыум ячэйкі ПУЗАПа;*

*3) што гр. Лабачоў, будучы прыцягнуты па падазрэнню як аўтар гэтых вершаў, на допыце, да якога ён выклікаўся 3 разы, катэгарычна адмаўляе, што аўтарам гэтых вершаў быў ён, і як бачна з наступнага следства даказаць, што Лабачоў быў сапраўды аўтарам вершаў не ўдалося;*

*4) што папераджальнымі мерамі №№ «Красноармейской правды» 34 і 68 ды шырокага распаўсюджання сярод грамадзян і чырвонаармейскіх часцей удалося не дапусціць і*

*5) што сам факт з-за яго даўнасці амаль зусім страціў маральнае значэнне,*

***пастанавіў:***

*гэтую справу вытворчасцю спыніць і здаць у архіў.*

*Гр-на ж Лабачова Фёдара Аляксеевіча ўзяць на ўлік, аб чым паведаміць органам ГПУ па яго месцы жыхарства.*

*Упаўнаважаны Шчукін (подпіс. — **М.І.**)...»*

Так завяршылася гэта смаленская гісторыя, пра якую мне захацелася вам расказаць.

Ці ўспамінаў пра яе Р. Шукевіч-Траццякоў? Цяжка сказаць, але думаю, што ўжо забыць дык не забываў ніколі...

**Мікалай ІЛЬКЕВІЧ,**
**член Саюза расійскіх пісьменнікаў, падпалкоўнік ФСБ Расійскай Федэрацыі.**
*г. Смаленск.*

## «Таджыкістан і Чачня — небеларускія справы»

***Калі ваеннаслужачыя загінулі ў Афганістане, то іх бацькам, як вядома, належыць пэўная кампенсацыя. Аднак калі ваеннаслужачыя загінулі ў Таджыкістане або ў Чачні — ніякіх выплат няма. Больш таго, калі мы звярнуліся ў райваенкамат, там адказалі, што, маўляў, Таджыкістан і Чачня — гэта не «гарачыя кропкі»...***

**Р. БЯЛЬКЕВІЧ, З. ЛАПЧАКОВА**, *г. Баранавічы.*

У Міністэрстве сацыяльнай абароны, куды мы звярнуліся наконт тлумачэнняў па гэтай сітуацыі, далі такі адказ. Сапраўды, Афганістан адносіцца да ліку тых краін, дзе вяліся баявыя дзеянні з удзелам грамадзян Рэспублікі Беларусь. У той жа час баявыя дзеянні ў Таджыкістане і ў Чачні з'яўляюцца ўнутранай справай расійскай дзяржавы, і грамадзяне Беларусі афіцыйнага ўдзелу ў іх не прымалі.

Такім чынам, грашовая кампенсацыя выплачваецца членам сем'яў ваеннаслужачых, якія загінулі пры выкананні службовых абавязкаў у Афганістане, у адпаведнасці з заканадаўствам Беларусі. Што да членаў сем'яў ваеннаслужачых Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі, якія загінулі ў «гарачых кропках» у мірны час, то ім, на падставе рашэння Эканамічнага суда СНД, выплачваецца страхавая сума па правілах, што дзейнічаюць у дзяржаве, дзе быў застрахаваны ваеннаслужачы ў перыяд праходжання службы.

## За «халтуру» турфірма павінна несці адказнасць

***Паважаная рэдакцыя! Намі з турыстычнай кампаніяй «Беларускі Спутнік» быў заключаны дагавор на ажыццяўленне экскурсіі па маршруту «Старажытная Менка», разлічанай на чатыры гадзіны. Аўтобус, які прыехаў за нашымі дзецьмі, спазніўся на 40 хвілін, у выніку чаго мы не трапілі ў музей пад адкрытым небам — ён зачыніўся яшчэ да нашага прыезду. Экскурсія ж працягвалася замест чатырох усяго дзве гадзіны. Напрыканцы яе дзеці вярнуліся ў школу сумныя і разгубленыя. У сувязі з гэтым у нас да вас пытанне, ці можам мы вярнуць свае грошы, якія былі заплачаны намі за экскурсію, ці патрабаваць ад фірмы зноў паўтарыць экскурсію для нашых дзяцей па ранейшаму маршруту?***

**Калектыў тэхналагічнай гімназіі № 158,** *г. Мінск.*

Як растлумачылі нам у Мінскім таварыстве спажыўцоў, згодна з «Часовымі правіламі дзейнасці ў сферы турызму на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь», у тым выпадку, калі турыстычная паездка не пачалася ў свой тэрмін, указаны ў дагаворы, і прапанаваныя выканаўцам новыя тэрміны паездкі ці аказання паслуг спажыўцу не падыходзяць, спажывец мае права скасаваць дагавор і патрабаваць кампенсацыі ўрону ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

У тых жа выпадках, калі якасць турыстычных паслуг, прадугледжаных дагаворам, не была забяспечана ў поўным аб'ёме, турыст мае права на бясплатную ліквідацыю недахопаў (у дадзенай сітуацыі кампанія можа паўтарыць для дзяцей экскурсію за свае грошы) ці патрабаваць ад выканаўцы змяншэння кошту паездкі (экскурсіі). У турыстаў ёсць таксама права пакрыцця маральнага ўрону ў грашовай суме, аднак ступень віны выканаўцы дагавора можа вызначыць толькі суд.

**Спецыфіка сённяшняй «Белавія» ў тым, што яна, каб выжыць, аб'ектыўна вымушана галоўныя свае намаганні накіроўваць на асваенне пераважна далёкага замежжа. Так, няма ўжо палётаў, рэйсаў не тое што на Нарач ці Пінск, а нават у абласныя цэнтры, многія гарады былых рэспублік СССР.**

# АВІЯЦЫЯ — ПРЭСТЫЖ ДЗЯРЖАВЫ

## На пытанні карэспандэнта «Звязды» адказвае старшыня Дзяржаўнага камітэта па авіяцыі Рыгор Фёдараў



**— РЫГОР КАНСТАНЦІНАВІЧ, амаль пяць месяцаў таму Саветам Міністраў была прынята праграма неадкладных мераў па развіццю грамадзянскай авіяцыі Беларусі. Няўжо наша авіяцыя аказалася ў загоне, што запатрабаваліся экстранныя дзеянні з боку ўрада?**

— Вы ведаеце, мы, авіятары, вельмі ўдзячныя прэзідэнту і ўраду менавіта за прыняцце няпростага рашэння аб неадкладных мерах. Бо марудзіць, сапраўды, ужо было немагчыма. І не таму, што наша галіна аказалася «ў загоне». Якраз наадварот, у параўнанні з іншымі краінамі СНД мы выглядалі даволі няблага па ўсіх параметрах. Аднак праблемы перад намі паўставалі надзвычай сур'ёзныя, якія самастойна галіна была не ў стане вырашыць.

Складанасць сітуацыі была ў тым, што, з аднаго боку, усе разумелі: суверэннай Беларусі сёння нармальная авіяцыя (г. зн. на ўзроўні сусветных стандартаў) патрэбна, прабачце за каламбур, як паветра. Возьмем толькі адзін аспект — знешнеэканамічныя сувязі. Без узаемных асабістых кантактаў, паездак дзелавых людзей, вывучэння імі на месцы патэнцыялу і магчымасцяў верагоднага партнёра, замежных камандзіровак спецыялістаў, справы не робяцца. Акрамя гэтага ёсць культурныя, гуманітарныя сувязі, турызм і г. д. Авіяцыя, карацей, гэта акно ў вялікі цывілізаваны свет.

З другога боку, карыстанне ім — вельмі дарагое задавальненне для маладой самастойнай дзяржавы. Тое, што мы некалі атрымалі ў спадчыну ад былога савецкага Міністэрства грамадзянскай авіяцыі, «Аэрафлота», паступова зношваецца, выпрацоўвае свой рэсурс. Больш як 20 гадоў існуе аэрапорт «Мінск-2». Ужо патрабуе капітальнага рамонту ўзлётна-пасадачная паласа. Настаў час замены яе святлосігнальнага абсталявання, сістэмы пасадкі самалётаў. Наспелі рэканструкцыя аэравакзала, рамонт фасаду яго будынка, пад'язной дарогі, шашы ад трасы «Мінск—Масква» да аэрапорта. Ужо пара аднавіць аўтаматызаваную сістэму рэгістрацыі, тэлескапічныя трапы, спецаўтатэхніку для абслугоўвання самалётаў, снегаўборачныя машыны і яшчэ многае іншае, без чаго аэрапорт не можа функцыянаваць.

Усё больш увагі, а значыць і велізарных грошай, патрабуе наш немалады авіяпарк. Яшчэ 2-3 гады таму рамонт толькі аднаго рухавіка самалёта каштаваў 70 тыс. долараў ЗША, цяпер жа гэта 250—300 тысяч!

Пакуль «Мінск-2», галоўны аэрапорт краіны, не мае ўласнай гасцініцы, што моцна замінае нам у працы. Нам пры неабходнасці даводзіцца вазіць пасажыраў начаваць у сталіцу. Самі разумееце, гэта нязручна для людзей і стратна для нас. Адсутнасць гасцініцы пазбаўляе нас дадатковых валютных заробкаў, магчымасці наладзіць так званыя стыковачныя рэйсы з іншымі авіякампаніямі. Напрыклад, на маршрут «Мінск—Пекін» мы маглі б прыцягваць пасажыраў з Прыбалтыкі, Польшчы, Украіны.

Я назваў толькі частку праблем, але і гэта пераконвае ў тым, што праграма Саўмінам прынята своечасова.

**— Давайце ад праблем галіны пяройдзем да праблем людзей. Пасажыры, пры ўсіх вартасцях і перавагах той ці іншай авіякампаніі, усё ж на першае месца ставяць пытанне аб бяспецы палёту. Дзякуй Богу, на маршрутах беларускіх самалётаў за гісторыю існавання «Белавія» не было трагічных здарэнняў, і гэта самая лепшая рэклама для яе. Як гэта ў вас атрымліваецца?**

— Мы не мелі сур'ёзных непрыемнасцяў у небе дзякуючы выдатнай, зладжанай працы нашага інжынерна-тэхнічнага персаналу. Без іх дазволу не ўзлятае ні адзін самалёт. Нашы тэхнічныя базы абсталяваныя навейшымі праграмна-апаратнымі комплексамі дыягностыкі рухавікоў, вузлоў і агрэгатаў паветраных караблёў. Спецыяльныя лабараторыі дазваляюць праводзіць прафілактыку прыборнага і электрарадыётэхнічнага абсталявання самалётаў, своечасова выконваць рамонт.

Сучасныя камп'ютэрныя комплексы расшыфроўваюць і аналізуюць вынікі аб'ектыўнага кантролю функцыянальнага стану авіятранспарту, аператыўна знаходзяць няспраўнасці, таксама сочаць за работай экіпажаў. У нашых аэрапортах дзейнічае сістэма шматступеньчатага кантролю надзейнасці самалётаў. У нацыянальным аэрапорце, дзе, натуральна размешчана самае лепшае ў нашай галіне абсталяванне, кантроль і дыягностыка праводзіцца так званымі неразбуральнымі метадамі, што прадухіляе непрымальныя нечаканасці ў паветры.

Мы і надалей не будзем шкадаваць грошай на новую тэхніку. Бо клопат пра бяспеку пасажыраў — наш святы абавязак. Сёння, напрыклад, «Белавія» вядзе перагаворы са шведскай фірмай «Вібраметэр» па абсталяванню Ту-154М апаратурай кантролю вібрацыі рухавікоў. Гэта дазволіць хутка і з высокай эфектыўнасцю вызначаць стан рухавікоў.

**На працягу апошніх гадоў мы час ад часу чуем, што нацыянальная беларуская авіякампанія адкрыла лінію ў тую ці іншую сталіцу свету. І разам з тым закрыліся амаль усе ўнутраныя рэйсы. З чым гэта звязана?**

— Спецыфіка сённяшняй «Белавія» ў тым, што яна, каб выжыць, аб'ектыўна вымушана галоўныя свае намаганні накіроўваць на асваенне пераважна далёкага замежжа. Так, няма ўжо палётаў, рэйсаў не тое што на Нарач ці Пінск, а нават у абласныя цэнтры, многія гарады былых рэспублік СССР. Нашы выдаткі за апошнія гады на ўтрыманне і эксплуатацыю авіяцыі значна ўзраслі. Адпаведна ўзняліся цэны і тарыфы на білеты. Адсюль і зніжэнне колькасці пасажыраў на ўнутраных лініях. Але ж рух на іх спынены не назаўсёды. Перспектыўным нам здаецца адкрыццё маршрутаў Гомель—Мінск—Брэст і Мінск—Гродна.

Але адначасова ў пэўнай катэгорыі нашага насельніцтва краін узнікла патрэба ў палётах у Германію, ЗША, Англію і г. д. У жыхароў гэтых і іншых краін з'явілася неабходнасць наведваць Беларусь. Мы не маглі не задаволіць гэты попыт. Акрамя вышэйназваных краін самалёты «Белавія» лятаюць у Ізраіль, Польшчу, на Кіпр, у Ірландыю, Турцыю, Аўстрыю. Асвоены маршрут Мінск—Стакгольм. Летась мы адкрылі рэгулярныя лініі ў Пекін і Рым. З Кітаем, як вядома, у Беларусі развіваецца плённае супрацоўніцтва. Як паказала практыка, своечасова быў наладжаны паветраны мост і з Італіяй. Мяркую па колькасці пасажыраў — беларусаў, італьянцаў, транзітнікаў. Таму, магчыма, хутка будзе ўжо чатыры рэйсы на Рым. Пасажырскія самалёты з эмблемай «Белавія» можна ўбачыць у далёкіх аэрапортах Афрыкі, Азіі, Блізкага Усходу.

У бліжэйшы час адкрыем лініі на Прагу і Дамаск.

На адкрыццё замежных маршрутаў нас падштурхоўвае яшчэ і гарачае дыханне канкурэнтаў у спіну, якія настойліва праяўляюць сябе на беларускім рынку. Гэта вядомыя «Аэрафлот», «Расійскія міжнародныя авіялініі», «Люфтганза», «Аўстралійскія авіялініі», «ЛЁТ», «Трансаэра» і іншыя кампаніі. Таму мы зараз сур'ёзна займаемся праблемай паляпшэння бартавога харчавання. Напрыклад, плануем частаваць нашых пасажыраў стравамі беларускай кухні.

**— Я тройчы лятаў самалётамі «Белавія» за мяжу. І ў прынцыпе ўсё было добра: прыемныя, ветлівыя і старанныя бортправаднікі, смачны пачастунак, мяккая пасадка. Але, калі параўноўваць з палётамі — на Боінгах — «Люфтганзы», «Аўстрыйскіх авіяліній», то адразу заўважыш, як нестае «Белавія» новых паветраных караблёў. Там пасажыр адчувае сябе больш камфортна ў многіх адносінах. Наколькі рэальная магчымасць іх з'яўлення ў беларускім авіяпарку?**

— Паступова замена самалётаў на сучасныя, рэнтабельныя, канкурэнтаздольныя машыны — гэта наша мара і наш самы дарагі праект. Калі мы хочам трывала замацавацца на рынку замежных паветраных перавозак, то нам ніяк не абысціся без мадэрнізацыі авіяпарка. Да гэтага падштурхоўвае і пастаяннае павышэнне міжнародных стандартаў па экалогіі і бяспецы.

Нас пакуль задавальняюць расійскія самалёты ТУ-134 і ТУ-154. Мы клапоцімся і пра іх бяспеку, і пра знешні выгляд: перафарбоўваем, абнаўляем інтэр'ер салонаў, замяняем крэслы, дывановыя пакрыцці.

Але гэтыя касметычныя і іншыя меры вырашаюць праблему толькі часткова. Па падліках нашых спецыялістаў, рэсурс самалётаў, якія мы цяпер эксплуатуем, да 2005 года будзе поўнасцю выпрацаваны. Таму мы ўсё больш схіляемся да набыцця па лізінгу сучасных, добра зарэкамендаваўшых сябе за апошнія гады амерыканскага «Боінга-737», французскіх аэробусаў А-319, А-320. Іх наяўнасць дазволіць у значнай ступені зняць тыя праблемы, якія вы закранулі ў вашым пытанні. Прыемна адзначыць, што Савет Міністраў нас падтрымаў у імкненні пёравозіць нашых пасажыраў на гэтых самалётах.

Аднак мы ні ў якім разе не адмаўляемся ад супрацоўніцтва з расіянамі. Магчыма, мы набудзем у іх сярэднемагістральны самалёт ТУ-204. У нас склаліся добрыя дзелавыя сувязі з казанскімі і рыбінскімі авіябудаўнікамі, авіярамонтнымі заводамі з Быкава і Мінеральных Водаў. Гэтыя адносіны мы будзем развіваць і паглыбляць.

Праца беларускіх бортправаднікоў, сапраўды, адпавядае высокім стандартам і заслужыла станоўчую ацэнку спецыялістаў. Але рэзервы паляпшэння сервісу ў нас яшчэ вялікія. Набрацца вопыту ім у многім дапамагае ўдзел у міжнародных конкурсах. Сёлета наша бортправадніца Анжэла Вярэніч упершыню прадстаўляла «Белавія» на конкурсе «Сусветная каралева сцюардэс», які праходзіў непадалёку ад Монтэвідэа, сталіцы Уругвая. Конкурс шырока асвятляецца ў прэсе і тэлебачаннем большай часткі Лацінскай Амерыкі — кантынента, які Беларусь толькі пачынае асвойваць. Таму рэклама там «Белавія» была вельмі дарэчы.

**— Наколькі мне вядома, у нашых грамадзянскіх авіятараў склаліся даволі плённыя адносіны з ІКАО (Міжнароднай арганізацыяй грамадзянскай авіяцыі), ІАТА (Міжнароднай асацыяцыяй паветранага транспарту) і іншымі міжнароднымі арганізацыямі. Летась «Белавія» стала членам ІАТА — аўтарытэтнай арганізацыі. Кажуць, што выказаныя вамі прапановы па ўмацаванню бяспекі палётаў у Канадзе на адным з пасяджэнняў ІКАО не толькі ўважліва выслухалі, але і асобныя з іх вырашылі ўкараніць у практыку. Што дае беларускай авіяцыі ўдзел у ІАТА і ІКАО?**

— Вельмі многае. Па-першае, вызваляе нас, маладую самастойную авіягаліну, ад няўдзячнай неабходнасці «выдумляць веласіпед». Нагадаю, што грамадзянская авіяцыя па сваёй сутнасці вельмі інтэрнацыяналізаваны від дзейнасці чалавека. Таму ў авіяцыі, як ні ў адной галіне, надзвычай важна прытрымлівацца агульных міжнародных правілаў. Яны, як і воінскія статуты, у большасці сваёй напісаны крывёй. Адсюль і жыццёвая неабходнасць бездакорна іх не толькі выконваць, але і пастаянна ўдасканальваць. Бо без гэтага немагчыма павышэнне эфектыўнасці авіяцыі.

Калі гаварыць аб ІАТА, то яна сёння аб'ядноўвае каля 260 паветраных перавозчыкаў і з'яўляецца буйнейшай у свеце іх арганізацыяй. На яе долю прыпадае 98 працэнтаў аб'ёму паветраных перавозак.

Ёю назапашаны велізарны вопыт, вельмі карысны для нас. Яго творчае пераасэнсаванне і ўкараненне ў нашу практыку дазволіць галіне ўзняцца на новы ўзровень, значна павысіць якасць паслуг пасажырам. Акрамя таго, членства ў ІАТА, работа нашых спецыялістаў у яе розных камітэтах, саветах, рабочых групах — гэта доступ да сусветных крыніц апошняй тэхнічнай інфармацыі: прававой, эканамічнай.

Міжнародныя авіяцыйныя арганізацыі — дынамічныя, гібкія, яны хутка і адэкватна рэагуюць на новыя з'явы ў авіяцыі. З гэтай нагоды прэзідэнт Савета ІКАО Асад Котайт па сваёй ініцыятыве ў канцы сакавіка г. г. прыехаў у Беларусь, быў прыняты яе прэзідэнтам А. Р. Лукашэнкам і застаўся задаволены канструктыўнай гутаркай з ім, а таксама станам авіяцыйнай галіны нашай дзяржавы.

**Гутарыў Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# «ААН папярэджвае аб «выбуху» віруса СНІДу ва Усходняй Еўропе»

**«Некаторыя часткі Усходняй Еўропы і Расіі знаходзяцца на парозе «сапраўднай эпідэміі» ВІЧ-інфекцыі, лічыць дырэктар буйнейшай міжнароднай арганізацыі па барацьбе са СНІДам.**

Гэта хвароба ў дадзеным рэгіёне абмежаваная пакуль у асноўным наркаманамі-падлеткамі і маладымі людзьмі ва ўзросце крыху больш за 20 гадоў, але яна пагражае распаўсюдзіцца на больш шырокую частку насельніцтва сексуальным шляхам, — заявіў Пітэр Паёт з UNSIDS — праграмы, якая ажыццяўляецца некалькімі агенцтвамі ААН, Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя і Сусветным банкам.

«Рэальна мы лічым, што бачым пачатак выбуху», — сказаў Паёт, які рыхтуе глабальную кампанію па папярэджанню распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі сярод людзей ва ўзросце 10—24 гадоў. «Мы павінны прыняць меры, каб не дапусціць руху гэтага рэгіёна па шляху Афрыкі і Азіі».

Украіна лідзіруе сярод былых савецкіх рэспублік з колькасцю заражаных, якая ацэньваецца ў 100 тыс. чалавек. У Расіі, як мяркуюць, налічваецца 40 тыс. інфіцыраваных, яшчэ 40 тыс. — у Беларусі, Малдове і Польшчы.

**«Інтэрнэшнл геральд трыбун» *(ЗША).***



## Старонка Паўла Глобы 5 чэрвеня, пятніца

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Устаньце як мага раней, сканцэнтруйцеся перад сур'ёзным днём, пастарайцеся нічога не забыць. Дзень, добры для спраў, якія патрабуюць хуткага вырашэння. Можна падпісваць важныя дакументы, накіроўвацца ў далёкія паездкі. Добры час для абмену думкамі, завязвання дружалюбных сувязяў. Асаблівай увагі і абароны патрабуюць дзеці — яны сёння вельмі падвергнуты дрэннаму ўплыву. Нельга рабіць уборку ў доме, падымаць пыл, праветрываць памяшканні, адчыняць вокны, асабліва ў цёмны час сутак. Важна, каб у доме пастаянна было святло ці гарэлі свечкі. У ежы аддавайце перавагу блінчыкам з варэннем, мёдам, тварагом.

**МЕДЫЦЫНА**. Цяжкі дзень для хворых на дыябет, панкрэатыт, а таксама для тых, хто пакутуе ад захворванняў нырак. Слабыя мочавыводная сістэма, падстраўнікавая залоза, эндакрынная сістэма.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

## ВІНШАВАННІ

Віншуем з днём нараджэння любую мамачку і бабулю ***Ганну Іванаўну КАЛЯГА.***

*«Пусть Бог тебе дает здоровье, силы,*
*Пусть будет больше радости,*
*приятных встреч.*
*И как нам хочется, родная,*
*тебя от всяких бед сберечь...»*

**Дзеці, унукі,** Плешчаніцы.

*Віншуем дарагую дачушку **Алёну КОТАВУ** з Нарачы. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і радасці ў жыцці, поспехаў у вучобе.*

**Бацькі.**

*Віншуем з 45-годдзем дарагую мамачку **Таццяну Рыгораўну ВАНЮКЕВІЧ** з г. Валожына. Жадаем шчасця, радасці, моцнага здароўя.*

**Дачка, сын, унучка Насця.**

*Віншуем з днём нараджэння ўнукаў **Сяргея РАМАНЮГУ і Алега МЯЖУЕВА**. Жадаем ім здароўя, шчасця, поспехаў у жыцці.*

**Валянціна Аляксееўна і Міхаіл Іванавіч** з в. Беразнякі.

# РЭШТА

## ЛЕТНІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

# ЧЭРВЕНЬ

**4/22 Васіліск**. «Ад Васіліска і салавей блізка», — сведчыць народная прымета, уводзячы ў свой каляндар памяць аб святым пакутніку Васіліску, пляменніку вядомага багаслова Ф. Цірона. Два браты Васіліска былі крыжаваныя ў час ганенняў Максіміяна, а самому пакутніку пасля адсеклі галаву (каля 308 г.) за ўчыненыя цуды і непахісную веру ў Хрыста.

**Сёмушныя (Траецкія, Сярэднія) Дзяды** — пятніца перад Сёмухай. «У пятніцу вараць постнэ, а ў суботу скоромнэ. На стале астаўляюць «дзядам», — гавораць у Лельчыцкім раёне.

**6/24 * Духавая субота (Святы дух, Стаўрускія Дзяды, Стаўроўскія Дзяды, Сёмка) — Дзяды ў суботу перад Сёмухай, Тройцай.** На Вілейшчыне сяляне рыхтавалі 5 або 7 страў. Пілі з адной чаркі, пускаючы яе па крузе. Пакідалі крыху стравы і гарэлкі для «душ». У валачобных песнях зазначаецца: «Свята Тройца май стаўляіць, старых памінаіць» (Верхнядзвінскі раён). Вядомы прымаўкі: «Да Святога духа не скідай кажуха», «На Духа будзець цёпла і суха». У гэты дзень садзілі капусту, каноплі.

*** Зялёная (Кляновая) субота (Зелянец, Май, Зялёныя святкі)** — свята маладой зеляніны перад Сёмухай. Варажылі пра надвор'е. Асвячалі травы, абкурвалі хаты, жывёлу, каб не баяліся перуноў. У Магілёўскай губерні сеялі каноплі, дзяўчаты хадзілі ў лес «завіваць вянкі». Гаварылі: «На Зелянец вясны канец».

**7/25 Ян.** *«Калі рой выйдзе перад Янам, будзе пчаляр панам».* У іншых мясцінах Беларусі гэтую прыкмету адносілі да Яна Купалы.

У царкоўным календары — Трэцяе адшуканне галавы Прадцечы і Хрысціцеля Гасподня Іаана (каля 850 г.)

*** Сёмуха (Сямік, Тройца, Клечанне)** — язычніцкае свята, у якім праглядаецца культ продкаў і расліннасці, прымерkаванае пазней царквою да хрысціянскай **Пяцідзесятніцы** (50-ы дзень пасля Пасхі).

Упрыгожвалі «маем» будынкі. У Лельчыцкім раёне рвалі рагоз («лепеху») і клалі на падлогу, каб не было блох. Дзяўчаты хадзілі ў лес «завіваць» бярозкі, плясці вянкі, есці абрадавую страву (яйкі). На Міёршчыне спявалі:

*Хадзіла Тройца каля аконца.*
*Я ж, маладзенькая, не выспалася...*

У некаторых раёнах Палесся называлі гэтае свята Клечаннем, відаць, таму, што галінкамі клёна ўпрыгожвалі хаты.

**Дзень святой Тройцы, Пяцідзесятніца** — вялікае царкоўнае свята, якое ўваходзіць у лік асноўных («двунадзесятых»), адно з дванаццаці, прысвечана памяці даравання Богам Маісею дзесяці запаветаў, аб спасенні святога духа на апосталаў, якія панеслі сведчанне пра ўваскросшага Ісуса. Гэты момант лічыцца нараджэннем царквы, што прызнае трыадзінства, Святую Троіцу: Бог-бацька, Бог-сын і Святы Дух.

Не складае цяжкасці заўважыць, што сёмушныя традыцыі маюць дахрысціянскае паходжанне, бо не выяўляюць у падабенстве па змесце з хрысціянскай Тройцай, хаця і ўзнікла яна як свята даволі рана — у 381 годзе, калі на царкоўным саборы ў Канстанцінопалі была прынята ў якасці асноўнага элементу сімвала веры. Найбольшае распаўсюджванне атрымала на нашых землях яшчэ пасля стагоддзя, калі была ўключана Сяргеем Раданежскім у «рухомы» праваслаўны каляндар і ўдала злілася з сёмушнымі абрадамі і звычаямі.

**8/26 Пачатак * Русальнага (Граннага, Праводнага, Духавага) тыдня** (Русальніца, Брээжыны, Іван-ды-Мар'я) — наступны тыдзень пасля Сёмухі; дні праводзін вясны. Ушаноўваўся культ расліннасці і продкаў. Іван-ды-Мар'я называюць у Рэчыцкім раёне панядзелак Русальнага тыдня.

Звычайна на другі дзень Сёмухі на Піншчыне некалі наладжвалі свята Куста, або вадзілі «куста». «Апраналі» дзяўчыну ў зялёныя галінкі дрэў і вялі па вёсцы з песнямі.

На Веткаўшчыне ў гэтыя дні не садзілі квахтух на яйкі, каб не выводзіліся кураняты з крывымі нагамі. На Смаленшчыне на Брээжыны не сеялі яравыя.

На Валожыншчыне адзначалася «Пастушковае свята», пастухі наладжвалі «балёк». А ў ваколіцах Тыкоціна і Бельска валоўе або конскае «вяселле». Хлопцы забаўляліся тым, што прыладжвалі на спіну вала балвана-рыцара з усім ваярскім раштункам, зробленым з прыроднага матэрыялу. Калі напалоханы вол скідаў «рыцара», святкаванне пераносілася ў карчму.

*9/27* Конскі Вялікдзень — першы аўторак пасля Сёмухі свята коней. У гэты дзень не выкарыстоўвалі іх для работы, у канюшні ставілі свечку за здароўе жывёлы.

**10/28** * Градабой (Градавая серада, серада Русаль) — серада на Гранным тыдні; засцерагаліся ад граду.

---

Даты прыводзяцца па новым і старым стылях (1/19 — 1 чэрвеня па н. ст., 19 мая па с. ст.). *Курсівам* выдзелены назвы каляндарных дзён, якія бытавалі ці бытуюць сярод беларусаў-католікаў і замацаваны па новаму стылю. Зорачкай (*) пазначаны святы, што залежаць ад Вялікадня ў праваслаўным і каталіцкім «рухомых» календарах.

## 36,6°

### Японскія дантысты папярэджваюць: «НІКАЦІН І АЛКАГОЛЬ ПАДПІЛЬНОЎВАЮЦЬ ВАШЫ ЗУБЫ З РАНІЦЫ ДА ВЕЧАРА»

Пра тытунь даўно ўсё вядома: курцы рызыкуюць атрымаць якое-небудзь адно, а то і адразу некалькі захворванняў ротавай поласці ўдвая часцей за тых, хто вядзе здаровы лад жыцця, бо курэнне негатыўна адбіваецца на кровазвароце дзяснаў.

Алкаголь жа б'е спадцішка. Той, хто «заліў за каўнер», часцей за ўсё не ў стане вечарам пачысціць зубы, праваліваючыся ў цяжкі сон. Карацей кажучы, чым больш п'еш, тым горшыя зубы.

### Турэцкія медыкі раяць...

...есці рэдзьку ў любы час года і колькі душа пажадае, бо яна з'яўляецца лепшым сродкам для лячэння сардэчных і ракавых захворванняў, цукровага дыябету; садзейнічае ўмацаванню імуннай сістэмы, зніжэнню ўзроўню канцэрагенных рэчываў і халестэрыну; знішчае мікробы ў нырках, ачышчае мачагонныя шляхі і ўмацоўвае дзясны;

...мужчынам, якія пакутуюць ад прастатыту, выпіваць у тыдзень як мінімум дзве шклянкі чырвонага віна, есці як мага больш памідораў, а стравы гатаваць на аліўкавым ці соевым алеі;

...для аднаўлення здаровага сну, калі вас мучыць бяссонніца, сумесь з трох сталовых лыжак хмелю і па адной — святаянніку і маку заліць шклянкай халоднай вады і гатаваць на невялікім агні 20 хвілін. Гэты настой выпіваюць з мёдам за гадзіну да сну.

**По матэрыялах друку падрыхтавала Арына КАЗАКОВА.**

## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

- **4 чэрвеня 1784 года** Мары з Ліёна стала першай жанчынай, якая паднялася на паветраным шары «Густаў» на вышыню 2590 метраў. Шар быў названы так у гонар назіраўшага за палётам шведскага караля Густава III.
- **У гэты дзень у 1800 годзе** справіў наваселле Белы дом у Вашынгтоне: у яго засяліліся першыя жыхары — прэзідэнт Джон Адамс з жонкай.
- **4 чэрвеня 1896 года** выпрабаванне першага аўтамабіля, пабудаванага Фордам, было затрымана на некалькі гадзін — нечакана высветлілася, што аўтамабіль шырэйшы, чым дзверы цэха, у якім яго стварылі.
- **4 чэрвеня 1910 года** выйшаў першы зборнік вершаў Якуба Коласа «Песні-жальбы».
- **4 чэрвеня 1947 года,** згодна з указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, раскрадальнікі грамадскай маёмасці фактычна прыраўноўваліся да «ворагаў народа»: за крадзеж каласкоў з поля можна было атрымаць да 20 гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці.
- **У гэты дзень у 1972 годзе** паэт Іосіф Бродскі быў вымушаны пакінуць радзіму. У пісьме Брэжневу ён напісаў: «Мне горка пакідаць Расію, але я веру, што вярнуся. Паэты заўсёды вяртаюцца».
- **4 чэрвеня 1989 года** адбыўся разгон студэнцкай дэманстрацыі на плошчы Цяньаньмэнь у Пекіне. Вынікам прымянення танкаў стала гібель соцень людзей.

### Дзесьці на белым свеце

***Дуэлі ў наш час адышлі ў нябыт, і людзі стараюцца вырашыць свае праблемы пры дапамозе больш бяспечных метадаў. Аб гэтым, напэўна, не чулі два італьянцы, якія страсна пакахалі адну і тую ж дзяўчыну.***

Марыо Альбао і Лорыс Гранчані кінулі адзін аднаму пальчаткі. За кім з іх быў выбар зброі — невядома. Паліцыі вядома адно — дуэль хлопцы вырашылі правесці пры дапамозе... аўтаматаў. Зрашэчаныя целы абодвух герояў-каханкаў былі дастаўлены ў бальніцу. Як ні дзіўна, абодва засталіся жывымі і цяпер папраўляюцца, падшукваючы сабе падыходзячую артылерыю для наступнай дуэлі.

### Цікава

***Даведаўшыся аб тым, што да Зямлі набліжаецца вялікі астэроід, які можа знішчыць нашу планету, Майкл Джэксан вырашыў схавацца ад сусветнай катастрофы... пад вадой.***

Ён ужо нагледзеў сціплую падводную лодку за 250 тысяч долараў, у якую думае змясціць 15 членаў сваёй сям'і і блізкіх сяброў. Ён спадзяецца, што астраномы змогуць своечасова прадказаць падзенне нябеснай грамадзіны, так што ён паспее зрабіць пагружэнне. Само сабой субмарына аснашчана ўсім неабходным — і нават звыш таго. Ёсць у ёй гасціная, абстаўленая раскошнай мэбляй, некалькі спальных пакояў, сталовая, кухня з запасам далікатэсаў на некалькі гадоў наперад.

«Нават калі Майклу ўдасца пазбегнуць сутыкнення з метэарытам, яму давядзецца прабыць пад вадой да канца сваіх дзён, што наогул нерэальна, — кажа інжынер Біл Браун. — Хутчэй за ўсё, падобнае нябеснае цела поўнасцю знішчыць жыццё на Зямлі, і вяртацца Джэксану проста не будзе куды».

### Скандал

***Як вядома, у фільме «Тытанік» персанаж Леанарда Дзі Капрыо паказвае сваёй каханай альбом з малюнкамі.***

Рэжысёр карціны Джэймс Камерон сцвярджае, што гэта яго малюнкі. Аднак, на думку экспертаў, малюнкі вельмі нагадваюць работы трох вядомых фатографаў: Салі Ман, Альфрэда Шцігліца і Брасэ. Паведамляецца, што Салі Ман ужо дамовілася аб усім з Камеронам, не даводзячы справу да суда. Што ж датычыцца двух іншых фатографаў, то іх адвакаты рыхтуюць судовыя іскі.

У той жа час кампанія Paramount заяўляе: «Яшчэ да здымкаў яны дасягнулі дамоўленасці з усімі мастакамі, чые работы былі выкарыстаны ў фільме. Яны самі прасілі, каб іх імёны не ўзгадваліся». Але рухавік скандалу ўжо запушчаны...

### Неверагоднае, загадкавае...

***Амерыканка Мэры Скофілд вырашыла звесці рахункі з жыццём, калі даведалася, што яе 60-гадовы муж падаў на развод і збіраецца ажаніцца з Коні О'Ніл, маладзейшай за яго на 15 гадоў.***

Не маючы сіл вынесці ганьбы, Мэры выпіла жменю снатворных пілюль. Яе адвезлі ў бальніцу, дзе ўрачы высветлілі, што жанчына жывая, але прывесці ў прытомнасць не змаглі. Місіс Скофілд змясцілі ў спецыяльную палату, дзе за ёй назіралі эндакрынолагі. Медыкі былі ўражаны метамарфозамі, якія адбываліся з Мэры: 55-гадовая жанчына маладзела з кожным днём. Зніклі сівізна і маршчыны, скура стала эластычнай. За паўгода Мэры Скофілд «скінула» літаральна гадоў 20, і калі на сёмым месяцы яна прачнулася, то не пазнала сябе.

Старога містэра Скофілда ледзь не паралізавала, калі ён убачыў сваю былую жонку ў зале суда: Мэры была такая прыгожая, як у дзень іх знаёмства. Ён тут жа адмовіўся ад ідэі разводу, але на гэтым настаяла сама Мэры, якая ўжо завяла сабе маладога каханка і на адсуджаныя ў былога мужа грошы паехала весяліцца ў Еўропу.

Медыкі пакуль не могуць разгадаць прычыну фантастычнага амаладжэння Мэры Скофілд. Некаторыя спецыялісты мяркуюць, што даксіламінавыя кампаненты, якія ўваходзяць у састаў моцнадзейных снатворных, здольныя запавольваць працэсы старэння. Пакуль жа, для таго каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, з мясцовых аптэк канфіскавалі ўсе падобныя прэпараты: старэючыя дамачкі, натхнёныя вопытам Мэры Скофілд, могуць кінуцца за амаладжэннем.



### СЁННЯ

**МЕСЯЦ**

**Першая квадра 2 чэрвеня**

*З 14.28 — 11-ыя месяцавыя суткі.*
*Месяц — у сузор'і Шаляў.*

**СОНЦА**

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 4.42 | 21.33 | 16.51 |
| Віцебск – | 4.24 | 21.31 | 17.07 |
| Магілёў – | 4.31 | 21.22 | 16.51 |
| Гомель – | 4.36 | 21.12 | 16.36 |
| Гродна – | 4.58 | 21.48 | 16.50 |
| Брэст – | 5.08 | 21.39 | 16.31 |

**ІМЯНІНЫ**

**ПР. Васіліска**
**К. Францішка, Квірына, Лютамілы**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, на большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 20—22, Гродне — 21—23, Брэсце, Мінску, Магілёве — 22—24, Гомелі — 24—26 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак: 5-га — на большай частцы тэрыторыі, 6-га — у паўднёвай палавіне рэспублікі кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература ўначы — 11—16, 6-га па паўночнаму захаду — 8—13, удзень — 19—24, 5-га па паўднёваму ўсходу да 28 градусаў цяпла.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 85.556. Індэкс 63850.
Зак. № 3402.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12